PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

БЕЛАРУСКі ГРАМАДСКА - КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВіК

№ 28 (1835) ГОД XXXVI БЕЛАСТОК 14 ЛІПЕНЯ 1991 Г. ЦАНА 1000 ЗЛ.

## „СЛЕД ЧАРНОБЫЛЯ" Ў ГАЙНАЎЦЫ

У сераду 12 чэрвеня ў Музеі помнікаў беларускай культуры ў Гайнаўцы адбылося адкрыццё выстаўкі "След Чарнобыля". Гэта ўжо другая выстаўка, якая экспануецца ў гайнаўскім музеі - першая прайшла ў кастрычніку-лістападзе мінулага года была прысвечана беларускай культуры і этнаграфіі. Выстаўка "След Чарнобыля" запланавана на два тыдні.

Ва ўрачыстасці адкрыцця першым слова ўзяў старшыня Грамадскага камітэта пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры. Спадар Канстанцін Майсеня прывітаў сабраных жыхароў Гайнаўкі і рэгіёна ды прысутных на ўрачыстасці прадстаўнікоў беларускіх улад - першага намесніка старшыні Беларускага фонду культуры Валерыя Скварцова, дырэктара фонду культуры Міхася Сальнікава, прадстаўніцу беларускага камітэта "Дзеці Чарнобыля" Аду Чалей ды заслужаную артыстку Беларусі Таццяну Мархель.

Бядзе, якая накінулася на беларускую зямлю, сказаў дырэктар фонду культуры, ёсць пачатак, а няма канца. Мы праз дзесяцігоддзі будзем несці гэты крыж - чарнобыльскую трагедыю. На жаль, гэты крыж будуць таксама несці нашы дзеці і ўнукі, але жыць трэба. І мы жывем. Мы вельмі

( Працяг на стар.5)



*Міністр замежных спраў Беларусі Пётр Краўчанка адкрывае мемарыяльную дошку.*

## У ГОНАР СКАРЫНЫ

Вестка аб тым, што ў канцы мая ў Ягелонскім універсітэце ў Кракаве будзе адкрыта мемарыяльная дошка ў гонар Францішка Скарыны, прыйшла нечакана. У сераду, 29 мая, сакратар ГП БГКТ Віктар Стахвюк атрымаў тэлефанічнае паведамленне, што ўрачыстасць адбудзецца 30 мая, але праз гадзіну быў другі тэлефон і тады высветлілася, што таблiцу адкрываць будуць у пятніцу, 31 мая. Да гэтак важнай падзеі ў жыцці беларускага народа нельга было аднесціся абыякава і ўдзел прадстаўнікоў ад беларусаў Беласточчыны быў проста неабходны. Давялося арганізаваць паездку дэлегацыі беластаччан на скорую руку. Справу ўскладняў яшчэ факт, што чацвер быў днём вольным ад працы /Божае Цела/. На працягу некалькіх гадзін сакратару ГП БГКТ В. Стахвюку трэба было знайсці транспарт і ўкамплектаваць дэлегацыю. Пасля тэлефонных, часам і нервовых размоваў /людзі не маглі ўразумець, чаму так нагла арганізуе ён паездку/ транспарт згадзіўся пазычыць старшыня Грамадскага камітэта пабудовы музея ў Гайнаўцы Кастусь Майсеня, а Гайнаўскі ліцэй папоўніў дэлегацыю сваімі прадстаўнікамі. У Кракаў паехаў настаўнік беларускай мовы Васіль Сакоўскі са сваімі вучнямі: Альжбетай Шырынскай, Басяй Янчук, Аняй

( Працяг на стар.6)

## НАС НЕ БОЛЬШАЕ

Размова з **МІХАСЁМ ЛУЖЫНСКІМ**, беларусам з Аўстраліі.

*- Спадар Міхась, "Ніва" шмат піша пра беларускую эміграцыю ў ЗША і Канадзе, таксама і ў Англіі, пра беларусаў у Аўстраліі звесткі ў нас даволі фрагментарныя. Таму, калі дазволіце, размову пачнем, так сказаць, "ад пачатку": якім чынам вы апынуліся па другі бок нашага свету, на берагах кантынента-пустэльні?*

- Я выехаў у Аўстралію з Нямеччыны, напрыканцы 1949 года, з лагеру перасяленцаў /так званых "дыпісаў" - displaced persons/... Маладыя людзі, фактычна, мелі выбар, куды ехаць: у Амерыку, маладых брала і Англія, і Францыя, і Аўстралія. Я выбраў Аўстралію...

*- Чаму?*

- Можа таму, што далёка... Прытым я лічыў, што гэты край мае будучыню перад сабою. І я не памыліўся, хаця пачаткі не былі лёгкія. Калі мы прыехалі, Аўстралія налічвала сем з паловай мільёнаў жыхароў, а сёння, дарэчы, яна ўжо перавысіла семнаццаць мільёнаў. Амаль у 100 працэнтах жыхарамі тадышняй Аўстраліі былі англасаксы, было крыху грэкаў і італьянцаў, якія трапілі туды пасля першай сусветнай вайны... Пра беларусаў да другой сусветнай вайны ніхто там не чуваў, магчыма, былі нейкія адзінкі. Беларуская эміграцыя ў Аўстралію, практычна, пачалася напрыканцы саракавых гадоў...

Пачаткі былі такія: кожны меў з аўстралійскім урадам кантракт на два гады працы, якую нам яны прапанавалі. Пасля двух гадоў мы мелі права самі выбіраць працу і месца пражывання. Але гэта не былі абсалютна строгія ўмовы: калі хто з нейкіх прычын, сямейных ці якіх, хацеў змяніць працу, то мог... Я пайшоў працаваць на пабудову высакавольтных ліній. Мы цягнулі лініі на вялікія адлегласці, праз даволі пустэльныя месцы, жыццё, безумоўна, нагадвала "цыганшчыну"...

*- Ну й сама праца даволі небяспечная...*

- Так, але яна добра аплачвалася, і гэта заняткі перспектыўны: заўсёды камусьці трэба больш электрычнасці... Я затрымаўся на гэтай працы да 1979 года. Бальшыня беларусаў пайшла працаваць на чыгунку і на пабудову сістэмы забеспячэння краю вадою... З вадою ў Аўстраліі справа складаная, таму што дажджавыя ападкі там невялікія, і беларусы, між іншым, будавалі дамбы, вадасховішчы і ўсё такое... Агульна кажучы, працавалі на дзяржаўных пасадах. Аўстралія тады прымала каля 110 тысяч эмігрантаў штогод, так што былі праблемы з жытлом. Пасялялі пераважна ў вайсковых лагерах, у памяшканнях, што засталіся пасля жаўнераў альбо нават пасля палонных японцаў... Пасля ўжо трэба было шукаць жытла самому... Варта сказаць, што беларусы і ўсе еўрапейцы даволі хутка пабудавалі сабе ўласныя выгодныя домікі, за якія ўжо не трэба было плаціць арэнду, і чалавек адчуваў сябе гаспадаром...

*- Значыць, заробак быў прыстойны...*

- Заробак быў такі, што калі вам не даводзілася плаціць нейкую арэнду, то чатырохасабовая сям'я магла пражыць за 30% заробленага, а астатнія 70% можна было адкласці, ашчадзіць... Жонка мая, дарэчы, ніколі не працавала, бо нейк зараз пасля пераезду ў нас паявіліся дзеці. Мы абасноваліся ў Сіднеі, гэта найбольшы горад Аўстраліі, каля чатырох мільёнаў людзей сягоння...

*- Ці беларусы ў Аўстраліі трымаліся разам, у сэнсе, ці памкнуліся стварыць нейкую арганізацыю або нацыянальнае згуртаванне сваіх суайчыннікаў?*

- Спачатку я скажу пра Сідней, хаця ведаю й два іншыя беларускія асяродкі... Першая беларуская

( Працяг на стар.6 )




-47-

## АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

Усё яшчэ Беларусь не з'яўляецца для беларусаў, раскіданых па свеце, тым, чым павінна быць айчына для ўсіх суайчыннікаў. Галоўная прычына незадаволенасці заключаецца ў тым, што Беларусь з'яўляецца найбольш русіфікаванай рэспублікай СССР. На працягу многіх дзесяткаў пасляваенных гадоў БССР не цікавілася лёсам тых беларусаў, якія апынуліся па-за яе межамі, спрыяючы такім чынам іх дэнацыяналізацыі. Зразумела, што такі стан рэчаў балюча перажывалі ўсе тыя беларусы на чужыне, якія захавалі нацыянальную свядомасць. Трэба, аднак, сказаць, што ў апошнія гады многае на Беларусі змянілася на лепшае. Будзем верыць, што гэты працэс будзе пашырацца і паглыбляцца.

Здаецца мне, што ў працэсе павольнага беларускага адраджэння вельмі пазітыўную ролю адыгрывае Саюз пісьменнікаў БССР. На працягу многіх дзесяткаў гадоў Саюз пісьменнікаў у сваёй арганізацыйнай дзейнасці ды і ў творчасці сваіх членаў выразна ставіў на першае месца інтэрнацыянальнае, а не нацыянальнае, стаючыся дзякуючы гэтаму тыповым для сталінщчыны інструментам дэнацыяналізацыі беларускага народа. Саюз пісьменнікаў не толькі не бараніў у трыццатыя гады сваіх арыштаваных членаў, але ахвотна далучаўся да кагорты следчых, пракурораў і прысяжных суддзяў, якія жорстка здзекаваліся над беларускімі пісьменнікамі. А ці ж Саюз пісьменнікаў, на вачах якога праводзіўся бесчалавечны працэс русіфікацыі Беларусі, хаця б раз запратэставаў, ці супрацівіўся? Наколькі мне вядома, не было такіх фактаў. Так было ў мінулым. А як выглядае сітуацыя сёння? Здаецца мне, што Саюз пісьменнікаў БССР выразна адраджаецца і пераходзіць з пазіцыі інтэрнацыянальнай на нацыянальную. Перараджэнне Саюза пісьменнікаў вельмі адчулі і мы - беларускія пісьменнікі з Польшчы. Саюз пісьменнікаў падтрымаў ідэю друку нашых твораў у выдавецтве "Мастацкая літаратура". Дзякуючы гэтаму ўсе беларускія аўтары з Польшчы, якія з'яўляюцца членамі Саюза польскіх літаратараў, ужо надрукавалі або друкуюць свае кнігі ў Мінску. Магчымасць выхаду на агульнабеларускі рынак мае для нас вялікае маральнае значэнне. Дагэтуль мы мелі абмежаваны доступ толькі да тых беларусаў, якія жывуць у Польшчы. Дзякуючы кніжкам, якія выходзяць у БССР, маем магчымасць кантактавацца праз свае літаратурнае слова з вялікай масай жыхароў Беларусі. Апрача гэтага, Саюз пісьменнікаў БССР дае нам магчымасць адпачываць у сваім Доме творчасці ў Іслачы. З такой магчымасці скарыстаў і я. Плённая гэта была пабыўка. На працягу двух тыдняў знаходжання ў Іслачы напісаў я 150 вершаў і быў гэта найбольш уданы перыяд у маім жыцці.

Давялося мне таксама, дзякуючы Саюзу пісьменнікаў БССР, прымаць удзел у аўтарскіх сустрэчах. Спатканні з людзьмі розных узростаў і розных прафесій заўсёды маюць для пісьменніка вялікае маральнае і творчае значэнне. І таму свае сустрэчы з беларусамі з БССР трактаваў я і трактую як вароты, якія вядуць у новую, невядомую мне дагэтуль рэчаіснасць.

Пастава Саюза пісьменнікаў БССР у адносінах да беларускіх аўтараў з Польшчы не можа не быць названа высакароднай і не можа не выклікаць нашай удзячнасці.

Працэс адраджэння Беларусі толькі што пачаўся. Яго ініцыятары і выканаўцы сустрэнуць яшчэ не адно расчараванне. Аднак, затрымаць яго ўжо нельга і я не сумняваюся, што Саюз пісьменнікаў будзе ісці ў першых радах беларускіх адраджэнцаў.

**Алесь Барскі**

---




**Прэзідэнт РП і прэм'ер-міністр Бельгіі** падпісалі ў Брусэлі супольную дэкларацыю ўрадаў Рэчыпаспалітай Польскай і Каралеўства Бельгіі. Польшча і Бельгія будуць весці пастаянныя палітычныя кансультацыі на міністэрскім узроўні і садзейнічаць кантактам паміж парламентамі абедзвюх краін. Абедзве дзяржавы будуць развіваць супрацоўніцтва ў галінах гаспадаркі, гандлю, культуры, навукі і аховы асяроддзя.

**Прэзідэнт РП Лех Валэнса наведаў галоўную кватэру НАТО** і сустрэўся з генеральным сакратаром НАТО **Манфрэдам Вернерам.** Прамаўляючы на форуме Міністэрскай рады НАТО прэзідэнт сказаў: "Без бяспечнай Польшчы і Сярэдняй Еўропы няма бяспечнай і стабільнай Еўропы". Выказаўся ён за будаванне адзінай Еўропы, у якой ёсць месца Савецкаму Саюзу. Прэзідэнт адмовіўся чытаць той фрагмент сваёй прамовы, у якой крытыкаваўся СССР за замаруджванне вываду сваіх войскаў з Польшчы /тэкст прамовы быў раней дараваны журналістам/.

**У Празе адбылося апошняе пасяджэнне палітычнага камітэта Варшаўскага дагавору.** Дэлегацыі шасці дзяржаў-удзельніц, якія ўзначальвалі: віцэ-прэзідэнт СССР **Генадзь Янаеў**, прэзідэнты: Польшчы **Лех Валэнса**, Чэхаславакіі **Вацлаў Гавел**, Балгарыі **Жэлю Жэльеў**, Румыніі **Іон Ільеску** і прэм'ер-міністр Венгрыі **Іожэф Антал** падпісалі пратакол аб роспуску дагавору, падпісанага ў Варшаве 14 мая 1955 г.

**Прэзідэнт Лех Валэнса падпісаў палажэнне аб выбарах у Сейм.** Раней Сейм не прыхіліўся да паправак, прапанаваных прэзідэнтам.

**Закон "Палажэнне аб выбарах у Сейм Рэчыпаспалітай Польскай" уступіў у сілу 3 ліпеня.** Згодна гэтаму закону парламентарныя выбары адбудуцца **27 кастрычніка 1991 года.**

**У Белавежы адбылася сустрэча** гісторыкаў, дзеячаў **БНФ**, з польскімі навукоўцамі і прадстаўнікамі беларускай меншасці ў Польшчы. У канферэнцыі, спансараванай Фондам Баторыя, удзельнічалі: **Зянон Пазняк, Валянціна Трыгубовіч, Альжбета Смулкова, Ганна Дылёнг, Анджэй Вычанскі, Уладзімеж Баярскі, Антон Мірановіч, Сакрат Яновіч.** Мэта сустрэчы - стварыць Польска-беларускае таварыства гістарычных навук, якое будзе займацца пытаннямі супольнай гісторыі. Быў прыняты праект статута і створаны гістарычны квартальнік **"Пагранічча"**, які будзе выдавацца ў двух моўных варыянтах: польскім і беларускім.

**Страйкавала гарадская камунікацыя ў Беластоку.** Пасля папярэдняга страйку было прынята рашэнне аб ліквідацыі камунікацыйнага прадпрыемства і стварэнні трох суполак.Бастуючыя патрабавалі адхіліць усе пастановы Гарадской управы і Гарадской рады ў справе ліквідацыі прадпрыемства гарадской камунікацыі.

**"Тыгоднік Падляскі" прызнаў штогадовыя ўзнагароды імя князя Канстанціна Астрожскага** за выдатныя дасягненні ў галіне пашырэння праваслаўнай думкі і культуры **Жану Чэкану** з Францыі і **Рамуальду Твардоўскаму** з Польшчы. Жан Чэкан з'яўляецца рэдактарам "Service Orthodoxe Presse", а Рамуальд Твардоўскі - вядомым кампазітарам, творы якога інспіруюцца царкоўнай музыкай, і мастацкім апекуном фестываляў царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы.

**На Беласточчыне прабывала група дэпутатаў Вярхоўнага Савета БССР.** Узначальваў яе **Анатоль Вярцінскі** - пісьменнік, старшыня камісіі па пытаннях галоснасці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека.




- **Свята беларускай песні ў Беластоку.**
- **Узнікла Рада нацыянальных меншасцяў у Польшчы.**
- **Канферэнцыя настаўнікаў беларускай мовы.**
- **У сеймавай камісіі аб беларусах.**
- **„Беластоцкі сшытак" - успаміны Масея Сяднёва з перыяду нямецкай акупацыі.**

## У РАДЗЕ БЕЛАРУСКІХ АРГАНІЗАЦЫЯЎ

21 чэрвеня 1991 года ў сядзібе Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку адбылося пасяджэнне Рады беларускіх арганізацыяў. Дыскусія прадстаўнікоў пяці згуртаваных у Радзе беларускіх арганізацыяў засяроджвалася на тэме Цэнтра беларускай культуры. У галасаванні сябры Рады аднадушна выказаліся за тое, каб заснаваць Цэнтр у Беластоку. Выступіць да ўлад з пастулатам стварыць Цэнтр беларускай культуры даручана Управе Рады.

Старшыня Рады беларускіх арганізацыяў Пятро Юшчук прадставіў сабраным статут Рады нацыянальных меншасцяў у Польшчы. Дзеля ўступлення ў Раду нацыянальных меншасцяў неабходна і дастаткова акцэптаваць яе статут ды назначыць сваіх прадстаўнікоў. Сябры Рады беларускіх арганізацыяў аднадушна прынялі статут Рады нацыянальных меншасцяў у Польшчы ды вылучылі шэсць асоб, якія будуць прадстаўляць беларусаў у гэтай жа Радзе. Першае пасяджэнне Рады нацыянальных меншасцяў у Польшчы адбылося 30 чэрвеня 1991 года.

**А. Максімюк**

## УЗНІК БЕЛАРУСКІ ВЫБАРЧЫ КАМІТЭТ

23 чэрвеня 1991 года ў рэдакцыі "Нівы" адбылася сустрэча ініцыятыўнай групы па стварэнню Беларускага выбарчага камітэта. Створаная ўдзельнікамі сустрэчы структура нефармальная, паколькі Сейм Рэчыпаспалітай тады яшчэ не ўхваліў выбарчую ардынацыю. Факт гэты не перашкаджае, аднак, весці падрыхтоўчую арганізацыйную працу. Усе палітычныя сілы так робяць. Чаму б і беларусам не?

Усе існуючыя зараз праекты выбарчай ардынацыі прадугледжваюць шмат якія льготы для нацыянальных меншасцяў. Таму заснавальнікі Беларускага выбарчага камітэта вырашылі, што мае ён быць беларускім менавіта. Камітэт пачне сваю дзейнасць ад моманту ўхвалення выбарчай ардынацыі.

**А. Максімюк**

## Што і чаму?

Брытанская зацікаўленасць беларускім Беластоцкім краем працягваецца. Вядомая зандажная фірма "Галуп" арганізавала дваццатага мая ў Беластоку апытальную сустрэчу з тутэйшымі палітычнымі і гаспадарчымі дзеячамі, у час якой выказваліся таксама ацэнкі наконт сітуацыі нашай нацыянальнай меншасці /уступныя тэзы фармуляваў старшыня Беларускага дэмакратычнага аб'яднання Сакрат Яновіч/. Удзельнікі дыскусіі, у тым ліку і лідэры важнейшых польскіх партыяў, пагадзіліся з высноваю, што суадносіны паміж грамадствамі палякаў і беларусаў у рэгіёне нагадваюць высокую сцяну. Як доўга будзе ў Польшчы нацыяналізм, так доўга немагчыма далучэнне яе да Еўропы, якая не цярпіць галоты і фанатызму.

У апошняй дэкадзе мая наведала Мінск дэлегацыя нашых дзеячаў на чале з адвакатам Пятром Юшчуком, старшынёю Рады беларускіх арганізацыяў у Польшчы. У яе склад уваходзілі: Віктар Стахвюк, Васіль Ляшчынскі, Яўген Альховік як кіраўнічыя асобы Беларускага грамадска-культурнага таварыства і Беларускага дэмакратычнага

( Працяг на стар.4)

# ШТО ДУМАЮЦЬ ПРА „БАСОВІШЧА”?

*Калі гэтая “Прысутнасць” трапіць у рукі чытачоў, у Барыку пад Гарадком пачнецца першы дзень Фестывалю музыкі Маладой Беларусі “Басовішча”. Загрымяць першыя бубны, енкнуць электрычныя гітары - гулкае лясное рэха данясе іхні стогн не ў адно гарадоцкае жыллё. Як самі гарадоцкія людзі ставяцца да студэнцкай імпрэзы?*



**Яўген Семянюк** /войт гміны Гарадок/:

- Былі ў мяне студэнты з Багданам Сіманенкам на чале і мы тут сабе пагаварылі. Я б сказаў, што справа “Басовішча” памысна развіваецца. Усё, чаго студэнты ад нас хочуць, на што спадзяюцца, - намагаемся ім забяспечыць. Мы ўжо дамовіліся наконт таго, што, дзе і як размясціць. Рамонт эстрады, пабудова туалетаў - усё гэта гміна бярэ на сябе, бо фактычна гэта наша справа, паколькі ўвесь год ладзім у Барыку нейкія імпрэзы. Хачу забяспечыць фестываль усім, што ў кампетэнцыі і магчымасцях Гміннае рады - можа гэтага не будзе столькі, колькі трэба, але на пачатак будзе прынамсі неабходны мінімум. Сіманенка выйшаў з ідэяй, каб дзеля ўтрымання парадку на фестывалі стварыць прыватную паліцыю, каўбояў-наёмнікаў. Я перакананы, што не будзе тут аніякіх перашкод. Фестываль будзе адбывацца перад усім ноччу, а наша паліцыя працуе толькі да 23.30. Калі пасля гэтай гадзіны хтосьці перабярэ меру, дадатковы аўтарытэт не пашкодзіць. Усё гэта, аднак, толькі дэталі. Мне хочацца сказаць пару слоў пра “Басовішча” ў будучыні. Мяне і Гмінную раду вельмі цешыць факт, што студэнты задумалі праводзіць свой фестываль у Гарадку - у пэўным сэнсе гэта набліжае нашу гміну. Як я ўяўляю “Басовішча” ў наступных гадах? Фестываль павінен быць таксама і гміннай імпрэзай. Маглі б мы тады ўпісаць яго ў гадавы бюджэт нашай гміны - стварылася б такім чынам гарантыя развіцця фестывалю. Чаго патрабуем ад студэнтаў? Перад усім сталага арганізацыйнага камітэта. Праўда такая, што людзі, якія прыходзяць да мяне, павінны ведаць, што ім трэба.



**Тамара Бурачэўская** /кіраўнічка гарадоцкага Дома культуры/:

- Што людзі думаюць пра „Басовішча”? Можа іначай: што людзі гаварылі пра мінулагодняе „Басовішча”? Фестываль ім спадабаўся. Усё, што гучала з эстрады ў Барыку, знайшло сваіх сімпатыкаў. Вядома, што старэйшым людзям падабалася перад усім спакойная музыка, гэта значыць, барды і аўтарская песня. Моладзі - рок-гурты ды іхняя дзікунская музыка. Наш Дом культуры таксама падключыцца да фестывалю. Апошні, трэці дзень фестывалю будзе супольнай імпрэзай студэнтаў і нашага Дома культуры.

**Аляксандр Максімюк**

*Фота аўтара*



*Барык чакае.*

## З ЖЫЦЦЯ БАСА Ў АМЕРЫЦЫ

**17 лістапада 90, Нью-Йорк**

У гэты дзень прысягалі сабе бясконцае каханне Янка Пляскові і Тамара Вап. І мы там былі ды мёд пілі...

**23 лютага 91, Нью-Йорк**

Алег Латышонак, на заканчэнне сваёй паўгадовай пабыўкі на навуковай стыпендыі, выступіў у Фундацыі імя Крэчэўскага з дакладам пра ўдзел беластачан у беларускім адраджэнні на пачатку XIX стагоддзя. Даклад выклікаў доўгую ды жывую дыскусію.

**24 лютага 91, Нью-Йорк, ірландская піўная “МакСорлейс”**

Развітанне з Алегам Латышонкам. У гонар няпісанага сяброўства паміж беларускім і ірландскім народамі павесілі на сцяне піўной эмблемы БАСа і “Басовішча”.

**17-18 сакавіка 91**

Рэйд “Амерыкана-І” - у Вірджынію. Адведалі вірджынскі універсітэт і дом, у якім жыў трэці прэзідэнт ЗША Т. Джэферсан. Незабыўнае ўражанне пакінула афіцыянтка рэстарана ў Шарлотвіл, якая на кожную нашу просьбу адказвала “еш” замест “ес”. Можа і ўмее яна па-беларуску, але чаму нашаму сябру забрала з-пад носа няскончаны абед?

**24 сакавіка 91, Нью-Брансвік**

Святкаванне Акта 25 Сакавіка - наладжанае БАЗАй і АБАМам. БАС як у афіцыяльнай частцы, так і ў мастацкай прыняў дзейны ўдзел. Барбара Кучынская выступіла з дакладам пра значэнне Акта для Беластоцкага краю і гісторыю яго святкавання ў Польшчы.

**31 сакавіка 91**

Рэйд “Амерыкана-2” - у сталіцу ЗША. Адведалі Маўнт-Вернон, месца, дзе жыў першы прэзідэнт ЗША Дж. Вашынгтон. Паціснуць руку спадару Бушу не ўдалося - кудысьці паехаў.

**26 красавіка 91, Лонг-Айленд**

Нарадзілася першае басаўскае дзіцятка, а ў прыватнасці Тамары і Янкі Пляскові чаў. Малы “басік” не дазваляе шчаслівым бацькам забыць пра яго ні ўдзень, ні ўначы.

**5 траўня 91**

Рэйд “Амерыкана-3” - у Бостан. Некалькі гадзін дыхалі атмасферай славутых амерыканскіх універсітэтаў: Ейль у Нью-Гэйвен і Гарвард у Бостане.

**31 траўня 91, Нью-Йорк, “МакСорлейс”**

Развіталіся мы з Валікам Сельвесюком і Ёляй Панфілюк. І вось наш гурток застаўся без прэзідэнта, а яшчэ нядаўна шмат хто закідаў, што “басаўцы” ўцякаюць у Амерыку.

**Барбара Кучынская**

P. S. Сябры амерыканскага гуртка БАС: Валік Сельвясюк, Ёля Панфілюк, Алег Латышонак, Гандзя Матысюк, Барбара Кучынская, Мірак Пякарскі, Янка Пляскові, Мірак Целушэцкі, Галіна Якімюк, Андрэй Іванюк, П. Рыжы, Рая Станкевіч, Аліна Якімюк.

## Дзякуем нью-йоркскаму гуртку

У месяцы чэрвені гэтага года прэзідэнт нью-йоркскага гуртка Беларускага аб'яднання студэнтаў Валянцін Сельвясюк перадаў Галоўнай радзе БАС 400 долараў ЗША. На гэту суму склаліся грошы, якія амерыканскія “басаўцы” закалядавалі зімою /пра калядаванне пісалася ў адной з папярэдніх “Прысутнасцяў”/ ды складчыны сяброў амерыканскага гуртка БАС.

Сардэчна дзякуем за перададзеныя грошы. Выкарыстаем іх на арганізацыю другога выпуску Фестывалю музыкі Маладой Беларусі “Басовішча”. Жадаем вытрымкі ў здзяйсненні статутовых мэтаў. Жыве Беларусь!

**Галоўная рада Беларускага аб'яднання студэнтаў**

# Што і чаму?

( Працяг са стар. 2 )

аб'яднання. Правялі яны перамовы з шэрагам міністэрстваў, у падпарадкаванні якіх знаходзяцца профілевыя вышэйшыя навучальныя ўстановы. У выніку іх падпісаны пачарговы "Дагавор аб вышэйшай адукацыі беларусаў з Польшчы", парафаваны першым намеснікам міністра народнай адукацыі Беларускай ССР Л.К. Сухнат. Дзеянне дагавора пачынаецца з новым акадэмічным годам 1991/1992 і будзе датычыць прыёму студэнтаў з Беластоцкага краю ў гуманітарныя, тэхнічныя, медыцынскія, сельскагаспадарчыя навучальныя ўстановы.

Актывісты Беларускага дэмакратычнага аб'яднання, якія знаходзяцца ў Амерыцы, сабралі дзесяць мільёнаў злотых дзеля патрэбаў нашага руху. А Хрысця і Лёнік Паплаўскія з Таронта /Канада/ самі ахвяравалі суму ў адзін мільён злотых. Усім ім шчырая падзяка ад нас!

Стабілізуецца дзейнасць Гаспадарчага гурту Беларускага дэмакратычнага аб'яднання. Гэтым кантрольным органам стаў кіраваць Ян Галёнка, беластоцкі бізнесмэн. Дагэтуляшнія кантракты з Беларускай Рэспублікай - ад пачатку года - перавысілі ўжо суму трыццаці пяці мільярдаў злотых таварнага абароту /бульба, гароднiна, садавіна, будаўнічыя матэрыялы/.

Чатыры дні - ад 18 да 21 чэрвеня - адбывалася ў Любліне міжнародная сустрэча вучоных і палітыкаў, прысвечаная адносінам паміж Польшчай і Беларуссю, Украінай, Літвою. З боку беларускай нацыянальнай меншасці прынялі ў ёй удзел і мелі палемічныя выступленні д-р Антон Міранoвіч і Сакрат Яновіч. Стэнаграмныя запісы будуць апублікаваны асобным выданнем. Тэматычны змест - ад сярэднявечча да нашых дзён. Шырэй аб гэтай сустрэчы будзе ў бліжэйшым нумары "Нівы".

У сувязі з набліжэннем парламенцкай кампаніі - па ініцыятыве Беларускага дэмакратычнага аб'яднання ўтварыўся ў Беластоку дваццаць трэцяга чэрвеня Беларускі выбарчы камітэт, які гуртуе ўсе беларускія арганізацыі. Кіруюць ім: Пятро Юшчук, Юрка Раманюк, Мікола Ваўранюк, Юрка Каліна як паўнамоцныя. Ёсць першыя кандыдаты ў беларускія паслы будучага Сойма Польшчы: Васіль Ляшчынскі з Бельска, Мікола Бушко і Васіль Дамброўскі з Гайнаўкі, Ян Хіліманюк з Нарвы, Віктар Стахвюк з Беластока.

**Сакрат Яновіч**

# Свойскія малюнкі



*Старая хата ў Плюцічах. Мал. У.Петрука.*

# Святыя Беларускай зямлі

### Святая праведная Юльянна, княжна Альшанская.

Імя Юльянны часта сустракаецца ў беларускіх свецкіх жанчын - так як Еўфрасінні ў асяроддзі манахіняў. Бацькі выбіралі такое імя сваім дочкам, мабыць, таму, што яно ўвасабляла на працягу гісторыі праведнасць, мудрасць беларускіх жанчын. Папулярнасць гэтага імя ўзрасла пасля кананізацыі ў палове XVII стагоддзя Юльянны, княжны Альшанскай, і развіцця культу святых Юльянны Вяземскай і Юльянны Лазарэўскай.

Пасля заняцця літоўцамі ў 70 гадах XIV стагоддзя Кіева намеснікамі ў гэтым горадзе сталі праваслаўныя магнаты Альшанскія. Хаця сям'я Альшанскіх паходзіла з Беларусі, але кіеўляне прынялі яе за сваю. На пачатку XVI стагоддзя памерла з невядомых прычын дачка князя Грыгорыя Альшанскага, 16-гадовая Юльянна. Цела яе было пахавана ў пячэрах Кіеўскай лаўры.

Мы нічога не ведаем пра земскае жыццё княжны Юльянны, апрача таго, што яна была глыбокай веры і мудрасці. З Божай волі больш чым сто гадоў пазней, у час пахавання аднай паважанай і заслужанай для Царквы жанчыны, была парушана магіла Юльянны Альшанскай. Яе цела аказалася нятленным. Княгіня ляжала ў пячэры быццам жывая. На целе і твары была белая скура. Святая была апранута ў каштоўны строй. Гэта здарылася за архімандрыі Елісея Плятнецкага /памёр ён у 1624 годзе/.



Манахі перанеслі цела княгіні ў Вялікую Пячэрскую царкву - але спачатку яе цела не лічылі за мошчы. Аднак, праз пару гадоў праведная Юльянна аб'явілася мітрапаліту кіеўскаму Пятру Магіле /1632-1647/ і загадала яму паважаць свае мошчы. Пасля гэтага аб'яўлення мітрапаліт Магіла загадаў манахам перанесці мошчы ў каштоўную раку і служыць пры іх акафісты. Ад таго часу пры мошчах пачаліся цудоўныя з'яўленні.

Аднойчы злодзей увараўся ў царкву і зняў з рукі святой княгіні каштоўны пярсцёнак. Выйшаўшы з царквы, ён голасна крыкнуў і ўпаў мёртвы. Не ўсе, аднак, паверылі ў святасць княгіні Юльянны. Адным з іх быў ігумен Міхайлаўскага манастыра Феадосій. Святая аб'явілася яму і сказала: "Я Юльянна, мошчы якой ляжаць у Пячэрскай царкве. Ты ўважаеш мошчы за нішто. Таму Гасподзь паслаў табе знак, каб ты зразумеў, што Гасподзь Бог прыняў мяне ў свае святыя дзявіцы." Ад таго аб'яўлення ігумен Феадосій стаў паважаць святую праведную Юльянну. Мошчы яе надалей захоўваліся ў Пячэрскай царкве. Загінулі яны ў час пажару храма ў 1718 годзе.

Культ святой княгіні Юльянны адыграў важную ролю ва ўмацаванні рэлігійнай і нацыянальнай свядомасці праваслаўных жыхароў беларускіх зямель. Святасць праведнай дзявіцы ў час змагання з уніяцтвам і каталіцызмам умацоўвала праваслаўную веру ў нашым грамадстве. Многія прынялі цудоўныя здарэнні пры мошчах Святой як знак Божы, які загадваў ім стаяць пры веры сваіх продкаў. Да сённяшніх дзён праведная Юльянна, княжна Альшанская, - узор для хрысціянскіх жанчын і дзяўчат на Беларусі.

**Антось Міранoвіч**

*****************************************************************************

# Першы выпуск

Раптоўнае рашэнне міністэрства адукацыі ў пачатку мінулага навучальнага года аб увядзенні навучання рэлігіі ў школах паставіла і Касцёл і Царкву ў надта складанае становішча. Рэлігійныя ўлады не былі падрыхтаваны да такой масавасці ў навучанні адразу. Раптам аказалася, што патрэбная вялікая група настаўнікаў Закону Божага, а іх няма. Выпускнікі тэалагічнай акадэміі і семінарыі не былі падрыхтаваны да працы з дзецьмі, а дыпламаваным педагогам нетавала ведаў у галіне навучання рэлігіі.

Ужо 1 верасня 1990 года Праваслаўны Епіскап Беластоцкі і Гданьскі выдаў дэкрэт аб утварэнні пры Беластоцка-гданьскай праваслаўнай дыяцэзіі Педагагічнай катэхетычнай студыі. Тады ж дырэктарам гэтай студыі быў назначаны дырэктар Ваяводскай педагагічнай бібліятэкі ў Беластоку д-р Янка Зенюк, які апрацаваў планы працы студыі і падабраў выкладчыкаў. Пры іх дапамозе была апрацавана праграма навучання, якая складалася з 11 тэматычных груп - прадметаў, у тым ліку дагматыка, катэхетыка, літургіка, царкоўна-славянская мова, гісторыя Праваслаўнай царквы, рэлігійнае выхаванне, а таксама педагогіка, псіхалогія, метадыка працы з дзецьмі розных узростаў і іншае.

Студыя правяла набор групы са 100 чалавек. Прымаліся людзі з поўнай сярэдняй, а таксама з вышэйшай адукацыяй. Таму ў сістэме навучання прадбачваліся тры групы студэнтаў:

* выпускнікі Хрысціянскай Тэалагічнай Акадэміі і духоўных семінарый былі абавязаны прайсці курс па псіхалогіі, педагогіцы і методыцы навучання;
* настаўнікі з педагагічнай падрыхтоўкай прайшлі курс па катэхетычных прадметах;
* людзі з вышэйшай непедагагічнай і з сярэдняй адукацыяй павінны былі прысутнічаць на ўсіх занятках студыі.

Лекцыі адбываліся вечарамі два разы ў тыдзень на працягу ўсяго навучальнага года: па панядзелках - катэхетычныя прадметы, а па серадах - з галіны педагогікі.

Выкладчыкамі студыі былі свяшчэннікі на чале з архіепіскапам Савам, а таксама выкладчыкі філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку. Дарэчы, усе лекцыі і наогул уся праца студыі засноўвалася на працы грамадскім чынам. Аніводзін з выкладчыкаў, ані сам дырэктар



# „СЛЕД ЧАРНОБЫЛЯ" Ў ГАЙНАЎЦЫ

(Працяг са стар.1 )

ўдзячныя вам за тую дапамогу, якую нашы дзеткі ад вас атрымліваюць - штогод нашы дзеткі з чарнобыльскай радыяцыйнай зоны адпачываюць на Беластоцкай зямлі. Вы шмат робіце, каб ім было ў вас добра, каб яны, вяртаючыся да сваіх бацькоў, добрым сэрцам успаміналі вашу добразычлівасць і чалавечнасць. Выстава, якую мы вам прывезлі, сказаў на заканчэнне дырэктар фонду культуры, напамін таго, што бяда бядою, а жыць трэба, напамін таго, як яно пачыналася, ды, урэшце, і напамін таго, што былі і ёсць людзі, якія хацелі б, каб трагедыя беларускага народа не была вядома. Кожны з вас, хто пройдзе па зале, у сэрцы прынясе ўсю гэту трагедыю.

На ўрачыстасці адкрыцця выстаўкі "След Чарнобыля" ад праваслаўнага духавенства выступіў айцец Антон Дзевятоўскі. Тое, што спаткала беларускі народ, сказаў а. Дзевятоўскі, гэта не трагедыя, а катаклізм. Няма слоў, каб апісаць, што людзі перажылі ды што перажываюць. Усе вынаходствы тэхнікі, а ў прыватнасці атамныя электрастанцыі - крыніца вялікага поступу. Гэтага, аднак, мала, навучаў а. Дзевятоўскі. Катастрофа ў Чарнобылі паказвае нам, што немагчыма бязмежна карыстацца гэтымі вынаходствамі, хаця гэта і танна і зручна. Дзеля кожнага поспеху чалавеку неабходна працаваць ды жыць бліжэй Бога, па справядлівасці.

Урачыстасць адкрыцця завяршылася незабыўнай мастацкай часткай у выкананні Таццяны Мархель, якая спявала дзіцячыя песні ды дэкламавала малітвы.

Агляд выставы, расказвала прадстаўніца камітэта "Дзеці Чарнобыля" Ада Чалей, лепш за ўсё



пачынаць ад самой падзеі, узрыву на чарнобыльскай АЭС. Да гэтага часу ўсё ідзе, як ішло ад 1917 года: жывуць людзі сваім звычайным жыццём, нехта святкуе вяселле, нехта ходзіць за сваімі справамі, ідзе падрыхтоўка да майскага параду. Узрыў чацвертага блока электрастанцыі прайшоў, але звычайны чалавек аб гэтым не ведаў - было ўсяго вядома, што адбылася нейкая аварыя на чарнобыльскай АЭС. Усе людзі святкавалі, дзеці ў Гомельскай вобласці былі выведзены на вуліцы - быў аб'яўлены дзень здароўя. Уся вобласць згуртавалася на стадыёнах, а ў гэты час на іх сыпаўся попел.

На стэндах выстаўкі "След Чарнобыля" прадстаўлены ўсе этапы трагедыі: вобраз развернутага рэактара, акцыя ліквідацыі агню пасля выбуху, рэспубліканскія кіраўнікі, якія, мала таго, што не паведамілі ў час народу, але яшчэ даказвалі з трыбуны - ніякая дапамога рэспубліцы не патрэбна, самі справімся з аварыяй.

Сярод фатаграфіяў, якія экспануюцца на выстаўцы, вылучаюцца дзве раўналеглыя плыні: выбух рэактара на фоне першамайскай дэманстрацыі, рэальная сітуацыя і даклады кіраўніцтва рэспублікі, праўда і хлусня, галоснасць і сакрэтнасць. Так яно цягнулася тры гады. Асобны стэнд выстаўкі прысвечаны грамадскім дзеячам і рухам, якія ўголас загаварылі пра чарнобыльскую трагедыю ды паказалі яе свету. У іншым жа куточку выстаўкі - фатаграфіі з бальніц. Немаўля, якому радыяцыя да таго паблытала ў генах, што нарадзілася без рук. Побач іншае немаўля, якому, так бы мовіць, "пашанцавала" - рукі ў яго ёсць, але без далоняў.

А які далейшы лёс выстаўкі "След Чарнобыля"? - запытаў я прадстаўніцу беларускага камітэта "Дзеці Чарнобыля" Аду Чалей. Выстаўку мы падрыхтавалі, адказала яна, да пятай гадавіны катастрофы. Тут у Гайнаўцы - гэта першы раз, калі яна экспануецца па-за межамі Беларускай Рэспублікі. Гайнаўка, аднак, гэта невялікае мястэчка і хацелася б паказаць выставу і ў іншых большых гарадах. Дзеля гэтага неабходная валюта, трэба наняць залу - мы яшчэ не навучыліся ўсё гэта арганізаваць.

Памажыце!



**Аляксандр Максімюк**

*Фота аўтара*

**Піражкі з макам**

## Макотра яднаецца?

Праз усю Яснаполію прайшоў поголас пра Макотру і нашу Святагорку. Цэнтральная станцыя тэледазіравання на гэты раз не паскупілася на цэлую каляровую шпульку.

Найсамперш даведаліся мы пра свой смаркаты лёс; аказваецца, знаходзімся паміж велікапірагійскім полымем і яснапалійскай патэльняй. Пацвярджэннем гэтай высновы былі, відаць, і велікапірагійскія напевы, якія суправаджалі нашае тут быдаванне. Народ, пазбаўлены ўласных песняў, анямеў і ў індывідуальнай прэзентацыі; нямыя абарыгенныя старэчы глядзелі ў тэлеаб'ектыў абмярцвелымі, высмажанымі на жыццёвым агні, вачыма. Казачныя церамкі, на фоне якіх здымалі апошніх магіканаў, настройвалі, аднак, аптымістычна. Аптымізмам абдало і ад гаворкі маладняка, які хоча людзьмі звацца. Усе Піражкевічы. Хоць і адарваліся ад роднай глухамані, але моцна трымаюцца купы, прагнуць вяртання да каранёў, упікаюць бацькоў за вернападданніцкі хрыбет: сынкоў любімых выхоўвалі на яснапольцаў, дзеля карысці нашчадкаў, разбуралі біялагічны і інтэлектуальны фонд Макотры. Ганьба бацькам! Слава блудным сынам-карэннікам! Адбудуем макотранскую веліч!

Тут - шась, шась - з'яўляецца ў чорным чуйны бельскі шаман і з імпэтам асаджвае саплівых адступнікаў-разумакаў. Выступае ён супроць пляменнай абмежаванасці. У Макотры, маўляў, жывуць не толькі Піражкевічы, але і Піражнюкі, Піражковы, а нават Піражынскія.

- Дый наогул, тут, хутчэй за ўсё, вотчына Піражковых, чым Піражкевічаў,-павучае.- Малапірогія!- дабаўляе глыбокадумна.

Узняўшы ў звышпляменныя высі праведніцкую бародку, шаман заклікае да адзінахатняй ідэі. Ніхто яму не пярэчыць, не ставіць назойлівых пытанняў. Падшыванцы зніклі, прамаўляе да нас.

Шпулька канчаецца святагорскім маленнем. Карэнныя асілкі ўзвальваюць на свае маладыя плечы агромністы крыж. Плыве жывая рака вернікаў. Нясуцца велікапірагійскія песні.

Макотра яднаецца?

**Сідар Макацёр**

**********************************************************************************

студыі, які быў на ўсіх занятках, за сваю працу ў студыі не ўзялі ні залатоўкі на працягу ўсяго года. Выключная гэта з'ява ў наш скамерцыялізаваны час. Усе заняткі адбыліся ў дакладна вызначаны час,выкладчыкі ўкладалі ў сваю працу шмат сэрца і гэткай жа дысцыпліны і аддананасці патрабавалі ад студэнтаў.

1 і 3 чэрвеня адбыліся выпускныя экзамены. Экзаменацыйная камісія (д-р Альжбета Чыквін, мгр Лідзія Смык, мгр Анна Куршаль, а. Аляксандр Хіліманюк, а. Міхась Хомчык, а. Янка Федарчук) на экзаменах па катэхізацыі працавала пад старшынствам прафесара тэалогіі архіепіскапа Савы, а на экзаменах па педагогіцы, псіхалогіі і методыцы навучання - пад старшынствам дырэктара студыі д-ра Янкі Зенюка.

7 чэрвеня на ўрачыстасці падсумавання першага года студыі дыпломы і званне настаўнікаў Закону Божага атрымалі 62 студэнты, сярод іх большасць паходзіць з Беластока і яго ваколіц, тры асобы - з Бельска і адна - з Бранска. Дзякуючы атмасферы,якая панавала на занятках у студыі, дзякуючы здабытым ведам выпускнікі зусім інакш глянулі на свае абавязкі ў школе, на сваю адказнасць у выхаванні дзіцяці. Іх веды, іх умелы падыход да вучня ставяць іх у новай, лепшай, мацнейшай пазіцыі сярод настаўніцкага калектыву, узнімаюць ранг навучання Закону Божага.

На лекцыях у студыі шмат месца прысвячалася шанаванню народных традыцый,выхаванню нацыянальнай свядомасці і свядомага падыходу да сваёй іншасці ў асяроддзі іншай рэлігійнай большасці.

Вельмі часта і на лекцыях, і на дадатковых адкрытых сустрэчах з моладдзю гучала тут беларуская мова, бо большасць студэнтаў паходзіла з беларускіх вёсак і там працавала.

Такім чынам, і выкладчыкі, і студэнты разумелі, што Праваслаўная катэхетычная студыя - гэта школа кадраў не толькі для навучання праваслаўнай рэлігіі, але і школа выхавання нацыянальнай свядомасці.

Арганізатары студыі бачаць патрэбу арганізаваць стацыянарную 3-гадовую студыю. Апрацаваны ўжо план і праграма такой студыі. У іх прадбачана, апрача шырэйшага катэхетычнага і педагагічнага навучання, выкладанне пяці моваў - у тым ліку грэчаскай і беларускай. Але стацыянарная студыя - гэта яшчэ справа будучыні. А на сёння цешыць факт, што ёсць першы выпуск адукаваных настаўнікаў Закону Божага. Ад 1 кастрычніка 1-гадовая студыя прыме наступную групу студэнтаў.

**Яніна Чэрнякевіч**

# ПАРНАСІК

### ШТОДЗЁННАСЦЬ

прабуджаюся сярод лугоў лясоў
адкідаю пярыну зелені
лічу звонкія кропкі часу
дражню дзіванны на мяжы
гукаю на вербы

за домам старым пакідаю
штодзённасць
яблыню высокапенную
каменем уваходжу у зямлю
якую пад буслiны клёкат
рэжа успацелы лемеш

**Андрэй Гаўрылюк**

# У ГОНАР СКАРЫНЫ



( Працяг са стар. 1 )

Мацюка і Пятром Кананюком. Разам з імі былі Людміла Кісляк і Івона Давідзюк з беларускага хору, а таксама шафёр музейнай "Латвіі" Янка Ляшчук. У Беластоку да дэлегацыі далучыліся яшчэ Віктар Стахвюк, Яўген Сноп /ён запісваў урачыстасць на відэаплёнку/, Алег Латышонак, які быў нашым праваднікам па Кракаве, і я. З Беластока выехалі мы ў чацвер каля поўначы, каб раніцай апынуцца ў горадзе Крака.

Урачыстасць была назначана на гадзіну 11.45. У Калегіум Новум прыйшлі мы крыху раней. Быў там ужо аўтар мемарыяльнай дошкі Валяр'ян Янушкевіч.

- Я адліваў дошку з бронзы ў Беларусі, - тлумачыў скульптар, - і мы яе сюды прывезлі як дар нашага ўрада. На дошцы я змясціў, паміж тэкстам польскім і беларускім, выяву Францішка Скарыны, які знаходзіцца ў сваёй працоўні пры тлумачэнні Біблії. Побач ад левага боку знаходзіцца герб Скарыны - Сонца і Месяц. На правым баку - варштат і прадметы вучонага той эпохі. Двухмоўны надпіс абвяшчае: "У Ягелонскім універсітэце вучыўся ў 1504 - 1506 гадах выдатны гуманіст і асветнік, першы беларускі друкар Францішак Скарына, які ў 1517 - 1525 гадах выдаў свой пераклад Біблії".



*Памятны здымак нашай дэлегацыі з міністрам Пётрам Краўчанкам.*

Урачыстасць пачалася пунктуальна. Рэктар Ягелонскага універсітэта праф. Анджэй Пэльчар прывітаў міністра замежных спраў Беларусі Пятра Краўчанку, генеральнага консула СССР у Кракаве Івана Ткачэнку, пісьменніка Серафіма Андраюка, скульптара Валяр'яна Янушкевіча і дэлегацыю беларусаў з Беласточчыны. Затым голас узяў міністр Пётр Краўчанка, які ў сваёй прамове прыпомніў прысутным постаць Францішка Скарыны і яго значэнне для беларускай і агульначалавечай культуры.

- Вельмі прыемна, - сказаў міністр, - што гэта мерапрыемства - адкрыццё мемарыяльнай дошкі - адбываецца ў межах агульнаеўрапейскага сімпозіума па захаванню культурнай спадчыны /які праходзіў у той час у Кракаве - рэд./. Гэта азначае, што пра нашага навукоўца і асветніка будзе ведаць не толькі беларуская меншасць у Польшчы, будзе ведаць не толькі інтэлігенцыя горада Кракава, але будуць ведаць і прадстаўнікі многіх еўрапейскіх дзяржаў, якія прыехалі на гэты сімпозіум.

Пасля прамовы міністр Пётр Краўчанка адкрыў таблiцу, а рэктару Ягелонскага універсітэта падарыў Скарынінскую энцыклапедыю, іншыя выданні пра Скарыну і памятны рубель з выявай першадрукара. Ля таблiцы былі ўскладзены букеты кветак, таксама і ад гайнаўскіх ліцэістаў і беластоцкіх беларусаў. Гэтыя апошнія ўскладалі Людміла Кісляк, Івона Давідзюк і Янка Ляшчук у народных беларускіх строях. Потым былі сардэчныя размовы з міністрам Краўчанкам і супольны здымак.

Паабедаўшы і паглядзеўшы Вавель, наша група пад вечар стала рыхтавацца дахаты. Перад намі была цэлая ноч у падарожжы.

**В. Луба**



*Злева: Івона Давідзюк, Серафім Андраюк, Валяр'ян Янушкевіч, Іван Ткачэнка, Пётр Краўчанка і праф. Анджэй Пэльчар.*

# ВЯРНУЦЬ НАРОДУ ПАМЯЦЬ

"Адкапалі, пане археолагу, сваёй шчырай, сумленнай працай, адкапалі праўду Беларусі, абаранілі ад руйнуючага часу, ад шкоднай паняверы, здзеку... Гэтая праўда шырыцца, расце, як зара світання", - захапляўся працай Івана Луцкевіча Леапольд Родзевіч. Працай руплівага збіральніка старажытнасцей беларускіх, гісторыка, краязнаўцы, вядомага ў Еўропе навукоўца, асветніка, стваральніка беларускай прэсы, першай беларускай палітычнай партыі. Адданага змагара і настаўніка. Бацькі беларускага Адраджэння XX стагоддзя. Яго кароткае жыццё - гісторыя сучаснага беларускага руху.

Сёння сюды, у Вільню, праз 72 гады пасля яго пакутнай смерці ў Закапаным, вяртаем яго прах. Тут працаваў ён шчыра і аддана, кожны вечар хаваючыся перад ахранкай, як "Іван Міхальчук". Сёння мы - беларусы з Літвы, Беларусі, Польшчы і СССР, у сонечны, вятрысты майскі дзень ідзем пад бел-чырвона-белымі сцягамі, з вялікім Яго партрэтам і крыжом, на якім лацінкай напісана: "Іван Луцкевіч, 1881-1919, дзеяч беларускага Адраджэння", на магілкі на Росе. Тут, на шчыце Літарацкай горкі, знойдзе апошні спачын прах, узяты з яго магілы ў Польшчы. Дзякуючы следапытам па зарослых няпамяццю, забытых сцежках нашай гісторыі, падобным Яму руплiўцам, не шкадуючым ні грошай, ні часу, ні здароўя, як Алег і Юрка Латышонкі з Беластоцкага краю, можам "адкопваць праўду Беларусі", вяртаць памяць народу.

# НАС НЕ БОЛЬШАЕ

( Працяг са стар.1 )

арганізацыя ўзнікла ў 1950 годзе ў Сіднеі якраз - гэта было Беларускае Аб'еднанне Новай Паўднёвай Валіі, значыць, штата, сталіцаю якога Сідней. Адразу пачаў выходзіць часопіс - "Новае Жыццё". Ён выходзіў прыблізна раз у месяц, тыраж, як на нашыя ўмовы, быў вялікі - 250-300 экземпляраў. На яго выхад адгукнуліся беларусы з іншых штатаў, сталі прысылаць грашовую дапамогу... Былі ў нас разыходжанні палітычнага характару, так што рэдактары гэтага часопіса змяняліся даволі часта. Выданне гэтае заглохла недзе ў 1954-м...

*- На чым грунтаваліся гэтыя, як Вы сказалі, палітычныя разыходжанні?*

- Гэтыя разыходжанні пачаліся яшчэ ў Нямеччыне. Беларуская эміграцыя падзялілася на дзве часткі - адна частка падтрымоўвала канцэпцыю Беларускай Народнай Рэспублікі, другая - канцэпцыю Беларускай Цэнтральнай Рады...

*- Ці пасля "Новага Жыцьця" было ў Аўстраліі нейкае перыядычнае беларускае выданне?*

- Рэгулярнага выдання не было. У Брызбейне Данат Яцкевіч выдаваў часопіс ветэранаў, але нерэгулярна, не магу вам дакладна сказаць, колькі нумароў выйшла...Выходзіць яшчэ й да сённяшніх дзён беларускі праваслаўны каляндар пры парафіі ў Мельбурне, магчыма, выходзяць нейкія лісткі пры парафіі ў Адэлайдзе, але яны, скажам так, мясцовага абсягу...

*- Як шматлікая беларуская грамада ў Сіднеі?*

- У нас, на жаль, няма беларускага прыхода ў Сіднеі, ёсць прыходы Беларускай праваслаўнай аўтакефальнай царквы ў Мельбурне і ў Адэлайдзе... Найважнейшай, найбольш людной арганізацыяй у Сіднеі з'яўляецца Беларускі культурна-грамадскі клуб, які існуе ад 1974 года і мае на ўласнасць сваё памяшканне з залай на 100 асоб. Абапіраючыся на ранейшыя звесткі, калі мы арганізавалі і рассылалі часопіс, можна сказаць, што беларусаў, а лепш сказаць, асобаў беларускага паходжання, у Сіднеі будзе тысяч пяць... Калі заглянуць у афіцыйныя аўстралійскія статыстыкі, то беларусаў не знойдзецца там зашмат, чалавек пад шэсцьсот, мабыць... Справа тут у чым? Калі закончылася вайна ў Нямеччыне, усе савецкія грамадзяне падлягалі прымусовай рэпатрыяцыі. Таму беларусы запісваліся чым хочаце: палякамі, летувісамі, нават галандцамі і сербамі... Найбольш - палякамі... Паводле савецкіх даведнікаў беларусаў у Аўстраліі 10 тысяч... Мы лічым, што крышку больш...

*- Па-за Сіднеем, якія прыкметныя асяродкі беларускага нацыянальнага жыцця ў Аўстраліі?*

- Мельбурн - другі па чарзе беларускі асяродак у другім па колькасці жыхароў горадзе Аўстраліі... Там ёсць беларуская кааператыва, якая мае свой дом, ёсць Беларускі цэнтральны камітэт, які аб'ядноўвае калісьці раздзеленыя плыні ў беларускай эміграцыі, ёсць прыход БАПЦ, у царкве кожную нядзелю багаслужба на беларускай мове, калісьці пры гэтай царкве існавала і беларуская школка... Далей - Адэлайда: беларусаў менш, чымсьці ў Сіднеі ці Мельбурне, але там яны здаўна маюць сваю царкву, мелі сваю школу, мелі мастацкую групу "Лявоніха", якая існуе й сёння, хаця ўжо нешматлікая і не вельмі актыўная... Беларускае Аб'еднанне Заходняй Аўстраліі - гэта горад Пэрт. Група беларусаў невялікая, але там падключыліся апошнім часам маладыя - Управа Аб'еднання складаецца з людзей ніжэй 30-ці гадоў...



А што ж зробіш, калі рэшткі Яго патаемна перавозілі сюды, "ратамі", Яўген Лецка і спадары Латышонкі, як калісьці Ён сам вярнуў на Бацькаўшчыну Літоўскі статут?

А 11 гадзіне 18 мая ад брамы могілак рушыў жалобна-пахавальны ход. Узначальваюць яго нашчадкі роду Луцкевічаў, прадстаўнікі БСДГ, мастацкай суполкі "Пагоня", Беларускай каталіцкай грамады, маладзёжных згуртаванняў. Вянкі нясуць Зянон Пазняк, Юры Хадыка, Міхась Ткачоў, Анатоль Сідарэвіч, Алесь Марачкін...

На Росе ўжо не хаваюць. Сярод паваленых каменных крыжоў, пад старымі бярозамі і соснамі, - свежа раскапаная зямля. Вярнуўся Іван у Вільню. І жыве Ён, бо мы, хаваючы ў зямлю гэты скарб, у скарбніцу, якая многа ведае і памятае, вяртаем Яго нашай памяці. "З намі застануцца Яго думкі і дух! - кажа Зянон Пазняк над магілай Луцкевіча. - Вяртанне Яго праху ў Вільню сведчыць аб незваротнасці сучаснага адраджэнскага руху на Беларусі".

У віленскай Катэдры ідзе служба ў памяць Івана Луцкевіча. Ксёндз Уладзіслаў Чарняўскі сваім гучным голасам успамінае барацьбіта, напамінае аб патрэбе маральнасці і сумленнасці ў нашыя часы.

Пад вечар - памінальная імпрэза ў віленскім Доме настаўніка. Пачуем тут яшчэ раз словы з дзённіка нявесты Івана Луцкевіча, Юліяны Вітан-Дубейкаўскай: "Іване, ты жывеш!" Яе запавет - вярнуць Івана Вільні, а Вільню Івану - выконваем мы.



*А 11 гадзіне рушыў жалобна-пахавальны ход.*

Развітваемся з горадам. Старажытная Вільня. Вось Базыльянскія муры... Тут працаваў Іван, тут была беларуская гімназія... Музея няма. Каштоўныя экспанаты, выхаджаныя, выкупленыя Іванам Луцкевічам, у Дзяржаўным літоўскім музеі. Ці зноў будуць нашыя Базыльянскія сцены і скарбы? Пярсцёнак з пальца Усяслава Полацкага, Літоўскі статут, дзяржаўныя граматы Вялікага княства Літоўскага, пісаныя на нашай мове? Абразы, тканіны, інструменты?..

Пісаў у 1912 годзе Змітрок Бядуля: "Святое гэта месца, бо яно родзіць зярняты прасветы для ўсяго вялікага Беларускага Народу".

**Міра Лукша**
**Фота аўтара**



*Сярод нас - сціплыя „некалькі асоб" (толькі так аб іх сардэчных стараннях у вяртанні Івана ў Вільню напісалі на Беларусі) - Алег і Юры Латышонкі.*

✪✪✪✪✪✪✪✪✪✪✪✪✪✪✪✪✪✪✪✪✪✪✪✪✪✪✪✪✪✪✪✪✪✪✪✪✪✪✪✪✪✪✪✪✪✪✪✪✪✪✪✪✪✪✪✪✪✪✪✪✪✪✪✪

*А якія формы лучнасці паміж гэтымі ўсімі асяродкамі? Ці ўвогуле яны ёсць?*

- Так, да гэтай пары адбылося дзевяць сустрэч беларусаў Аўстраліі. Яны праходзяць па чарзе ў трох найвялікшых гарадах: Адэлайдзе, Мельбурне і Сіднеі. Апошняя была летась, пад праваслаўныя Каляды ў Адэлайдзе. Калі на першую сустрэчу прыехала чалавек пяцьсот, то на апошняй назбіралася іх пад дзвесце. Так што, бачыце, нас не большае, а наадварот, моладзь асімілюецца, і эміграцыя спакваля старэе... Нам вельмі патрэбны моцны штуршок, так сказаць, прыток свежай крыві. Трэба вас усіх з Беластока забраць...

*- Спадар Міхась, нас ужо й без гэтага высмактала Амерыка, каб яна ляскам ляснула... Пройдзе яшчэ гадоў колькі, і Беласточчына сама застанецца без маладога пакалення беларусаў, таму што ўсе яны пруцца над зорнапаласатую Іст-Рывер... А кажучы сур'ёзна, ці аўстралійскі ўрад далей прымае эмігрантаў?*

- Усё яшчэ прымаюць, у мінулым годзе прыехала іх, здаецца, 116 тысяч... Але справа тут вельмі складаная. Аўстралія бярэ спецыялістаў, якіх не мае, скажам - электронікаў... Што цікавае, на верхняй прыступцы драбіны гэтых спецыялістаў знаходзяцца... паліроўшчыкі мэблі! Да таго ўсяго дадатковыя абмежаванні - узрост не болей за 30 гадоў, добрае веданне ангельскай мовы, і яшчэ сёе-тое і іншае... А для індакітайцаў вельмі лёгка. Яны купляюць лодку, сядае іх чалавек трыццаць-сорак і давай у Аўстралію праз мора. А ўрад іх адразу аб'яўляе бежанцамі, надае ім статус палітычных уцекачоў..

*- З увагі на гэта шкада, канешне, што Польшча трапіла ў лік краін так званага "вольнага свету": хоць бы зараз цябе і са скуры лупілі, то калі ты, прыкладам, не паліроўшчык мэблі, на ніякі статус у Аўстраліі не разлічвай... Але тут ужо нічога не зробіш... Пра эміграцыю можна бы бясконца, але шануючы Ваш час, на заканчэнне пра асабістую для Вас справу, пра беларускую радыёпраграму ў Сіднеі?..*

- У нас ёсць перадача раз у тыдзень, гадзінная, ад 8.15 да 9.15 у аўторкі. Каардынатарам і дыктарам гэтае перадачы з'яўляюся я сам. Перадача ідзе ўжо шаснаццаць гадоў, ад ліпеня 1976 года... Спачатку нам трэба было аплачваць выдаткі самім, гэта значыць, плаціць тэхніку, які рабіў запіс на стужку. Аднак паманеньку ўрад стаў асігнаваць грошы, і стварылася так званая станцыя для спецыяльных перадач. Усе кошты бярэ на сябе ўрад. Заробак невялікі, не тое, што на камерцыйных станцыях, але ўсё-такі ёсць... Маю аднаго супрацоўніка, айца Ігара Хлябіча, вашага земляка, беластачаніна. Ён у кожную перадачу рыхтуе пяціхвілінную гутарку на рэлігійную тэму... Абсяг станцыі невялікі, усяго на наш штат, але ў федэральнай сталіцы Канберы /кіламетраў сто пяцьдзесят ад Сіднея/ нас чуюць. Слухаюць нас не толькі беларусы, але й украінцы ды палякі, кожны, хто разумее беларускую мову.

*- Сардэчна Вам дзякую за наведанне нашай рэдакцыі і за цікавую размову.*

**Размову вёў**

**ЯН МАКСІМЮК**




**З дакументаў Генеральнага штаба /II аддзела/, Варшава, 1928.**

-43-

Дня 11 лістапада 1920 года быў падпісаны дагавор, які быў вынікам пасяджэнняў беларускай і літоўскай дэлегацый. Вось змест гэтага дагавору:

**Дагавор**

Заключаны паміж Урадам Беларускай Народнай Рэспублікі і ўрадам Літоўскай Дэмакратычнай Рэспублікі:

"Беручы пад увагу адвечную дружбу Беларускага і Літоўскага Люду, супольнасць іх інтарэсаў у сённяшнім часе, а таксама патрэбу ўзмацнення на будучыню добрых суседскіх адносін, урад Беларускай Народнай Рэспублікі і Урад Літоўскай Дэмакратычнай Рэспублікі пастанавілі заключыць дагавор для ўзаемнай падтрымкі і дзеля гэтай мэты ўпаважнілі:

Беларускі Урад: старшыню Рады Міністраў - Вацлава Ластоўскага, міністра справядлівасці - Аляксандра Цвікевіча, члена Рады Рэспублікі - Язэпа Варонку, радцу пры пасольстве на Украіне інжынера Аляксандра Галавінскага і члена Рады Рэспублікі - інжынера Антона Аўсяніка.

Урад літоўскі: намесніка міністра замежных спраў - Петраса Клімаса, загадчыка Палітычнага дэпартамента Міністэрства замежных спраў - Бранюса Балціса, члена Устаўадаўчага Сейма - Вальдэмараса Чарнецкіса, члена Устаўадаўчага Сейма - Сіменаса Розенбаўмаса, міністра без тэкі да беларускіх спраў на Літве Дамінікаса Сямашкі і доктара Юргіса Шаўліса.

Вышэй названыя ўпаўнамочаныя сабраліся ў сённяшнім дні ў горадзе Коўні і пасля абмену паўнамоцнымі дакументамі, якія абодва бакі прызналі як правамоцныя, згадзіліся ў наступным:

*Параграф 1.* Урад Беларускай Народнай Рэспублікі зрабіў усё, каб беларусы - жыхары тых мясцовасцяў, дзе мае быць праведзены плебісцыт паміж Літвой і Польшчай, - аддавалі свае галасы ў карысць Літвы. Плебісцыт гэты тычыцца выключна адносін паміж Літвой і Польшчай, не вырашае праблемы межаў паміж Беларуссю і Літвой, справа гэта будзе аформлена на падставе параграфу 6 гэтага дагавора.

*Параграф 2.* Урад Беларускай Народнай Рэспублікі згаджаецца на тое, каб усе яго вайсковыя фармацыі, створаныя на літоўскай тэрыторыі, былі выкарыстаны ўрадам Літоўскай Дэмакратычнай Рэспублікі для абаронных мэт. Аб спосабе выканання гэтага параграфа стораны заключылі асобны дагавор.

*Параграф 3.* Урад Літоўскай Дэмакратычнай Рэспублікі прызначае ўраду Беларускай Народнай Рэспублікі і Прэзідыуму Рады Беларускай Народнай Рэспублікі месца афіцыйнага прабывання і дзейнасці ў якімсьці з гарадоў Літоўскай Рэспублікі пры ўзаемнай згодзе міністраў замежных спраў абодвух урадаў.

Асобы са складу Прэзідыума Рады Беларускай Народнай Рэспублікі і са складу Беларускага ўрада, а таксама беларускія дыпламатычныя прадстаўнікі карыстаюцца экстэрытарыяльнымі правамі.

Чыноўнікі Беларускага ўрада могуць быць затрыманы літоўскімі ўладамі толькі ў паразуменні з беларускім урадам.

Асобы са складу Беларускага ўрада і Прэзідыума Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, а таксама чыноўнікі гэтых установаў не павінны ўмешвацца ў пастановы Літоўскага ўрада або агітаваць супроць Літоўскай дзяржавы або яго ўрада.

Такія ж абавязанні бярэ на сябе літоўскі ўрад у адносінах да Беларускай Народнай Рэспублікі.

*Параграф 4.* Беларускі і Літоўскі ўрады абавязваюцца ўзаемна падтрымлівацца ў адносінах да замежных урадаў і дзяржаў.

*Параграф 5.* Урад Літоўскай Дэмакратычнай Рэспублікі абяцае дапамагчы Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі ў атрыманні замежных пазыкаў. Формы і варункі дапамогі акрэсліць пагадненне паміж міністрамі замежных спраў абодвух урадаў.

*Параграф 6.* Усе пытанні, звязаныя з адносінамі паміж Беларускай і Літоўскай дзяржавай, павінны вырашацца шляхам дабравольнай дамоўленасці ўрадаў гэтых дзяржаў. Гранічныя пытанні паміж абедзвюма дзяржавамі павінны вырашацца мірным шляхам пасля склікання Правамоцнага Збору Прадстаўнікоў Беларускай Народнай Рэспублікі. Да таго часу мясцовасці з перавагай беларускага насельніцтва, якія ўваходзяць у склад Літоўскай Рэспублікі, павінны кіравацца прынцыпам тэрытарыяльнай нацыянальнай аўтаноміі.

*Параграф 7.* У выпадку, калі б які-небудзь параграф гэтага дагавору пагражаў адной са старон вайсковым інцыдэнтам з трэцяй дзяржавай, тады такі параграф перастае абавязваць стораны.

*Параграф 8.* Тэрміну гэтага дагавору стораны не акрэсліваюць, аднак старана, якая захоча ад яго адступіць, абавязана папярэдзіць другі бок на шэсць месяцаў раней.

*Параграф 9.* Публікацыя гэтага дагавора поўнасцю або часткова можа быць праведзена толькі за згодай абедзвюх старон.

*Параграф 10.* Дагавор гэты выкананы ў двух экземплярах на беларускай і літоўскай мовах. Абодва тэксты трактуюцца як аўтэнтычныя. Дагавор гэты быў сфармуліраваны, падпісаны і ўзмоцнены дзяржаўнымі негацыяцыямі ў горадзе Коўні, 11 лістапада 1920 года.

Падпісалі:

Паўнамоцныя прадстаўнікі Урада Беларускай Народнай Рэспублікі
/-/ В. Ластоўскі
/-/ А. Цвікевіч
/-/ Я. Варонка
/-/ А. Галавінскі
/-/ А. Аўсянік

Паўнамоцныя прадстаўнікі Урада Літоўскай Дэмакратычнай Рэспублікі
/-/П. Клімас
/-/ П. Балуціс
/-/ В. Чарнецкіс
/-/ Ц. Розембаўмас
/-/ Д. Сямашка
/-/ Др. Шаўліс

Згодна з арыгіналам
/-/ Антон Аўсянік
Сакратар дэлегацыі Беларускай Народнай Рэспублікі.

Пячатка: "Надзвычайная дыпламатычная місія Беларускай Народнай Рэспублікі"

Горад Коўна, 13 лістапада 1920 г."

**/Пераклад зроблены тут з польскага тэксту - А.Б./**




Сэрцайка! Ты мне і так не паможаш, але мушу табе ўсё расказаць, як было.

Бацькі мае былі вельмі бедныя. Бацька працаваў на чыгунцы, а да таго піў. Дзяцей было шмат, а мама не працавала. Калі мне было 16 гадоў, бацькі знайшлі мне працу, бо я і так у школу тады ўжо не хадзіла.

У 17 гадоў я нарадзіла дзіця. Адзін з маіх калег запрасіў мяне на прыватку і там мы сышліся. Дагэтуль мы з ім нічога супольнага не мелі, хаця ён мне і раней вельмі падабаўся. Жаніцца са мной ён, вядома, не збіраўся. Я працавала далей, а мама і сёстры мне дапамагалі, як маглі. Бацька майго дзіцяці не плаціў ніякіх аліментаў. Але мне не гэта было найбольш крыўднае. Мне ж гэты хлопец надалей падабаўся, нягледзячы на свінства, якое ён мне зрабіў. Зрэшты, быў ён у каханні фантастычны! Мне здавалася, што пасля той сустрэчы, у выніку якой нарадзіўся мой маленькі чалавечак, мне ўжо ніхто ніколі не спадабаецца.

Але на сваёй жыццёвай дарозе сустрэла я іншага мужчыну. Ён не быў разведзены, але не жыў з жонкаю, хаця быў у іх маленькі сынок. Я не ведала, што ў іх здарылася, але адчувала, што ён вельмі нешчаслівы. Я была таксама нешчаслівая, і гэта, відаць, нас спалучыла.

Але тут наступіла прыкрая неспадзеўка. Высветлілася, што мой новы кавалер вельмі слабы ў "мужчынска-дамскіх" справах. Ну, кажу табе, Сэрцайка, даслоўна вісеў у яго нейкі стручочак, якім ён ледзь да мяне дакранаўся. Божа, падумала я, але ж яму на тое дзіця пашанцавала! Так што адразу я была вельмі разбітая. Было недаўменне, расчараванне, нейкі недасыт. А пасля... прывыкла. Нягледзячы на тое, што мой новы хлопец не быў "арлом" у пасцелі, то быў усё ж надта мілы ў адносінах да мяне, зрэшты, умеў жанчыну песціць і ласкаць. Мы пачалі разам з ім выязджаць, хадзілі ўсюды разам. Сталі неразлучнай парай. Я пакахала гэтага чалавека, нягледзячы на яго, можна сказаць, фізічны дэфект. Зрэшты, на вока быў ён вельмі абаяльны і прыстойны. Маім сяброўкам ён вельмі падабаўся. А пра іншае яны ж не ведалі.

І вось, уяві сабе, Сэрцайка, што і гэты хлопец кінуў мяне. Я думала, што ён мяне павінен па руках і нагах цалаваць за тое, што я з ім, хаця як мужчына ён мне замнога не даваў, а ён адышоў без слова і пачаў цягацца з нейкай іншай. Як жа гэта ўсё выходзіць, скажы, Сэрцайка?

**Эля**

Эля! Твой другі хлопец дасканала здае сабе справу са свайго дэфекту і гэта, несумненна, страшэнна мучыць яго. Разышліся з жонкаю, бо ў некага не вытрымалі нервы. Я думаю, што ў яго. Цяпер, во бачыш, кінуў цябе. Мо яму сорамна за сябе, а мо шукае пацвярджэння свайго "я" ў іншай.

А людзі б заўсёды, бадай, сказалі, што вінавата тут кабета, якой ён не дагадзіў.

**Сэрцайка**

****************************************************




**ЯГАДЫ З МАЛОЧНЫМ ЖЭЛЕ**

На 30 дэкаў суніц, трускалак або малін трэба ўзяць 1 - 1,5 шклянкі свежага кіслага малака або ёгурту, 1,5 лыжачкі жэлаціну, 3 лыжкі цукру, 1/2 палачкі ваніліну, збітая смятана.

Перабраць ягады, памыць іх, асушыць. Жэлацін перамяшаць з некалькімі лыжкамі халоднай вады, пакінуць мінут на 10 - 15. Тады падаграваць на малым агні, памешваючы. Давесці да кіпення, астудзіць. Змалоць цукар або стаўчы яго з ванілінам. Ёгурт або кіслае малако збіць венічкам. У часе збівання спалучыць з цукрам і астуджаным жэлацінам. Ягады пералажыць у салатніцу, заліць падрыхтаваным жэле, накрыць, уставіць у халадзільнік і пакінуць на 1,5 - 2 гадзіны.

Калі астыне, падаваць са збітай смятанкай.

**ЖЭЛЕ З МАЛІНАЙ**

На 30 - 40 дэкаў маліны трэба ўзяць 1 лімон, 1,5 лыжачкі жэлаціну, 1 шклянку вады, 10 - 15 дэкаў цукру, 1/2 шклянкі салодкай смятанкі.

Памыць лімон. Маліну памыць, асушыць, пералажыць у салатніцу. Жэлацін перамяшаць з некалькімі лыжкамі халоднай вады, пакінуць на 10 - 15 мінут. Закіпяціць шклянку вады, у кіпецень палажыць намочаны жэлацін, памешваючы, падаграваць, давесці да кіпення. Выціснуць сок з лімона, спалучыць з жэлацінам, дадаць крыху сцертай на тарцы лімоннай скуркі і цукру. Астудзіць. Падрыхтаваным жэле заліць маліну, накрыць. Уставіць у халадзільнік. Збіць смятанку. Калі жэле застыне, аздобіць дэсерт смятанкай.

**КРЭМ З СУНІЦАМІ**

На 30 дэкаў суніц трэба ўзяць 10 дэкаў цукру, 4 яйкі, 1/2 шклянкі салодкай смятанкі, 3 лыжачкі жэлаціну.

Жэлацін падрыхтаваць, як вышэй. Ягады перабраць, памыць і дакладна асушыць. Памыць яйкі, аддзяліць жаўткі. З бялкоў збіць пену, калі ўжо будзе цвёрдая, дадаваць паступова па лыжачцы цукар. Далей збіваць, дадаючы па адным жаўтку, а ў канцы крэм перамяшаць з суніцамі /пакінуць некалькі для ўпрыгожання/ і з разведзеным жэлацінам.Калі крэм пачне застываць, выкладзіць яго на талерку. Упрыгожыцьзбітай смятанкай і пакінутымі суніцамі.

**КРЭМ З ТРУСКАЛАК**

*/для дарослых/*

На 40 дэкаў трускалак трэба ўзяць 3 яйкі, 1/2 шклянкі смятанкі, 3 - 4 лыжачкі жэлаціну, 8 дэкаў цукру, 1 кілішак рому.

Трускалкі ачысціць, памыць, асушыць. Памыць яйкі, аддзяліць жаўткі. Жэлацін размяшаць з некалькімі лыжкамі халоднай вады і, калі набракне, падаграваць на невялікім агні, памешваючы, пакуль не закіпіць і не распусціцца жэлацін. Тады зняць з агню, астудзіць. З бялкоў збіць пену, а калі ўжо яна будзе цвёрдая, збіваць далей, дадаючы па лыжцы цукар. Трускалкі, жаўткі і смятанку збіваць у міксеры так, каб атрымалася пена. Дадаць ром, пену з бялкоў і жэлацін. Гатовы крэм пералажыць у місачкі і ўставіць у халадзільнік.

**МАЛІНА З КРЭМАМ**

На паўкілаграма маліны трэба ўзяць 10 дэкаў цукру, шклянку смятанкі, 2,5 лыжачкі жэлаціну, пачачку ванільнага цукру, 6-8 штук бісквітнага пячэння.

Жэлацін размяшаць з некалькімі лыжкамі халоднай вады, калі набракне, падаграваць на малым агні, распусціць, астудзіць. Халодную смятанку хутка збіць венічкам. Калі атрымаецца пена, дадаць цукар і ванільны цукар. Да збітага крэму дадаць разведзены ў вадзе жэлацін, перамяшаць венічкам, дадаць маліну, пералажыць у салатніцу. Зверху палажыць пячэнне.

**Гаспадыня**




Мілы Астроне! Прыснілася мне, што была нейкая гасціна. Многа людзей. На сталах усяго поўна, найбольш розных пірагоў, тортаў. Пачалі людзі разыходзіцца, а ўсё тое дабро заставалася. Я падумала, што шкада гэтага, бо ўсё змарнуецца. Пачала браць пірагі сабе і загортваць у паперу. Калі ўсяго набрала, мой знаёмы /які цяпер хварэе і ляжыць у бальніцы/ падыйшоў да мяне і забраў гэта, гаворачы, што гэтак нельга паступаць, што гэтак брыдка. Палажыў тую пачку на стале, яна развярнулася, і тады падыйшла якаясь старушка і ўзяла з яе кусочак нейкай вяндліны. Што гэта можа значыць? У суме я нічога не ўзяла.

**Валя**

Валя! Усё роўна сон сведчыць пра тое, што ты будзеш мець /або маеш ужо/ нейкія матэрыяльныя клопаты. Выразна сведчаць пра тое тыя сталы, застаўленыя ежай, асабліва пірагамі.

**Астрон**



# Зорка

## старонка для дзяцей



Аня Завадская і Аня Галёнка на канікулах у бабулі. *Фота У.Завадскага.*

**************************************************************

Пайшлі дзед з Лукашком у суседнюю вёску па малако. Забавіліся і дамоў вярталіся позна ўжо, калі сонца села на спачын. Сцямнела неяк адразу.

Дарога ішла праз лес. Не такая ўжо і вялікая дарога, але дзеду клыпаць па-старэчаму больш чым паўгадзіны. Ды і Лукашок не надта разганяўся, бо цёмна, пад нагамі нічога не відаць. Часам ён чапляўся сандалямі аб карані дрэў. Абапал дарогі павырасталі нейкія чорныя высокія волаты ў касматых бурках. Лепш выйсці на сярэдзіну дарогі і глядзець толькі наперад. Яна хоць і невыразна, але свеціцца. Унук з дзедам гэтак і зрабілі. Каб было весялей ісці, дзед Лукаш пачаў расказваць, як у сорак першым у такую ж цемрадзь прадзіраўся з групай разведчыкаў праз густы ельнік, каб перайсці за лінію фронту. Загад быў - дастаць "языка".

- Як гэта - дастаць языка? - здзівіўся Лукашок.

- А так, жывога немца даставіць у штаб, каб дапытаць яго, бо наш полк збіраўся ісці ў наступленне. Дык вось, прадзіраліся з гадзіну ці, можа, больш, ужо нават страцілі надзею выбрацца на прастору, як раптам дрэвы парадзелі, уперадзе засвіцілася нейкая палоска, і мы выйшлі на дарогу. Дарога заўсёды куды-небудзь давядзе, быць не можа. Дастаў я свой кампас, адпусціў тормаз, стрэлка закivалася, і адразу стала ясна, куды нам падавацца, каб на паўночны захад трапіць... Мы і пайшлі, моўчкі, каб не выдаць сябе, такі закон у разведчыкаў - маўчаць. Раптам перад намі нешта шэрае закivалася і нібы ліхтарык бліснуў. "Стой, - кажу хлопцам, - ні кроку... Бачыце?" Лявон кажа: "Не, нічога не бачу". Грышка таксама не бачыць, толькі Юзік пацвердзіў: "Ага, нешта бліскае, нібы воўк вачыма..." Думаю: што ж рабіць? Страляць нельга, можна немцаў насцярожыць. Парашылі збочыць з дарогі, але так, каб не спускаць яе з відавоку. Ідзём, і тое нешта, што бліскае, перад намі нібы ідзе.

Спыніліся. І тое нешта спынілася. Мы ідзем - яно ідзе, мы

## НЯСТРАШНЫ СТРАХ



спыняемся - яно таксама замірае і перастае блішчаць. "Калі воўк, дык учацвярых справімся" - падумаў я і ціха скамандаваў: "Наперад! Аўтаматы напагатове". Ідзём, а вачэй не спускаем з таго месца, дзе бліскаўкі тыя, бывае, узнікаюць. "Ведаеш, Лукаш, што гэта? - кажа Лявон. - Там, мусіць, пень гнілы. І не адзін..." - "Давайце абступім гэта дзіва кругам, паназіраем з розных месц, - кажу я і камандую: - На дзесяць крокаў разыдзіся!"

Цішыня. Каб хто паварушыўся. Раптам Юзік напаўголаса гэтак гаворыць: "Нехта там стаіць". Чаго ж марудзіць? Камандую: "Абступаем. Толькі дружна!" Рынуліся ўміг наперад. Бліскаўка знікла. Перад намі сапраўды пень асінавы трухлявы. Ды не адзін, шмат іх тут. Ляда старое з-пад асінніку. Лявон адкалупнуў кавалачак той трухлі ды пад шынель схаваў, прыглядзеўся. "Хадзі-тка сюды, хлопцы, глядзіце!" Першы ступіў я і, прыгнуўшыся да Лявона, зазірнуў яму за пазуху, а там сапраўды нібы лямпачка ад ліхтарыка свеціцца. Во як было з намі, разведчыкамі, ледзьве страляць не пачалі. У страха, кажуць, вочы вялікія.

- А хіба страх з вачыма? - запытаўся Лукашок.

- У чалавека вочы, - адказаў дзед, - але ад страху ён, бывае, вылупіць іх, каб лепш бачыць... І тады звычайную елку ў лесе ноччу за волата-страшыдлу прымае, а пень трухлявы за ваўка, які вачыма бліскае. Але гэта ўжо нястрашны страх, бо ведаеш, ад чаго ён.

Тым часам дзед з унукам мінулі лес, наперадзе добра была відаць дарога, а на пагорку раптам засвяціліся агеньчыкі іхняй Раёўкі.

- Дзеду, а "языка" вы тады ўсё-такі здабылі? - спытаў Лукашок.

- А як жа, ды яшчэ якога гаваркога... Начальнік нашай разведкі перад строем падзяку аб'явіў усім.

- Падзяку за страх? - з'едліва спытаў унук.

- За тое, што разгадалі нястрашны страх і заданне выканалі.

**Уладзімір Юрэвіч**

### ВІКТАР ГАРДЗЕЙ

***

Высока сонейка ў зеніце.
Грыміць машынамі шаша.
Гняздо зуйка не раздушыце,
Не растапчыце мураша.

Павінны мы сваім нашчадкам
Усё пакінуць, чым жылі:
І белы луг, і рэчку з кладкай,
І лес, і жытнія палі.

Нам усяго хапае ўдосталь
Карміць распешчаную сыць.
Злачынна і ганебна проста
За кошт чужы сягоння жыць.

І цесна часам у стандартах,
І часам смак вады не той,
Ды забываць, мой друг, не варта:
Свет не канчаецца табой.

Пахаладае, завятрэе,
І сведчыць логіка сама:
Цяпло ўчарашняе не грэе,
Святла ўчарашняга няма

### УЛАДЗІСЛАЎ НЯДЗВЕДСКІ

Для раскрытай душы
Немата -
Гэта горш, чым вачэй
Слепата.
Немата, -
Калі сэрца імкнецца крычаць,
Ды нехта
Яго прымушае маўчаць.
Немата -
Гэта пошук патрэбнага слова.
Немата - то расстанне
З матчынай мовай.
Немата -
Калі ў скрыпцы
Ірвецца струна,
Калі ў думках тваіх
Глушыць словы

### МІКОЛА АРОЧКА

.. Як ты выжыў і так,
мой продак лапцюжны,
на скрыжаванні
мячоў і магіл?
Як данёс да мяне,
Ад пятлі ўратаваўшы,
роднай мовы пяшчоту,
І пах, і красу?
З тваіх рук,
гэты скарб,
без распіскі прыняўшы,
Да нашчадкаў
ці я -
Ў чысціні данясу?

### НІЛ ГІЛЕВІЧ

Спявайце, юныя паэты!
Спяліце ў бурах пачуцця
Неўтаймаваны боль планеты,
Непераможны крык жыцця!

Магчыма, вам якраз і здзейсніць
Дзядоў вялікі запавет:
Узняцца так на крылах песні,
Каб чуў і бачыў цэлы свет!

Назло пракорам самазваным,
Што глуха каркаць пачалі,
Спявайце спевам нечуваным
На мове любай вам зямлі!

Спявайце, помнячы нязменна:
Пакуль паэты будуць пець -
Не быць Радзіме безыменнай,




## ПАДЛІЧЫЎ

На ўроку матэматыкі настаўнік прапануе вучням рашыць задачу:

- У вас на агародзе расце яблынька. Бацька з яе нарваў тры мяшкі яблыкаў, адзін прадаў на кірмашы, другі аддаў суседзям. Колькі мяшкоў яблыкаў засталося дома?

Вучань:

- Яблынькі ў нас няма. Бацька нічога не рваў, не прадаваў і нічога суседзям не даваў. Але ўчора ён прынёс яблыкі, і дома ёсць адзін мяшок.

## ГОЛЫ ДРОТ

Вучань першага класа лічыць на лічыльніках.

Настаўнік:

- Колькі будзе, калі ад чатырох адняць два?
- Два.
- А калі ад двух адняць адзін?
- Адзін.
- А калі і гэтую адну костачку забраць, што застанецца?
- Голы дрот! - адказвае вучань.

## САМ ПІША, САМ ЧЫТАЕ

- Напішы, калі ласка, пісьмо маёй сястры ў Адэсу, - папрасіла бабуля хлопчыка.
- Не магу, бабуля... У мяне ногі баляць...
- А ты што - хіба нагамі пішаш?
- Чаму - нагамі? Пішу, як і ўсе, рукою. Але для таго, каб ваша сястра даведалася, пра што там напісана, мне прыйдзецца пайсці ў Адэсу. Бо тое, што будзе там напісана, апрача мяне, ніхто не разбярэ.

## НЕ ЎСЁ ЎЛІЧЫЛА

У краму прыйшла ўсхваляваная маці.

- Гадзіну таму назад я паслала да вас сына, каб ён купіў пяць кілаграмаў яблыкаў. А калі ўзважыла дома тыя яблыкі, што вы прадалі, то іх было тры кілаграмы!
- А ці ўзважылі вы свайго сына? - пацікавіўся прадавец.

## СЯСТРА І ШКАРЛЯТЫНА

Вучань прыйшоў у клас і з парога кажа настаўніцы:

- А мая сястра захварэла шкарлятынай!
- То ідзі хутчэй дадому! - загадала настаўніца. - Бо заразіш увесь клас!

Праз два тыдні хлопчык зноў прыходзіць у школу.

- Ну, што, сястра ўжо папраўлілася?
- Не ведаю, бо яшчэ не напісала.
- А дзе ж яна?
- У Аўстраліі.

*Пераклаў з украінскай мовы*

**Валеры Бабей.**

Беларускія гульні

## МАЎЧАНКА

**Апісанне гульні:** дзеці прыгаворваюць:

Пярвенчыкі, чарвенчыкі,
Зазвінелі бубенчыкі
Па свежай расе,
Па чужой паласе,
Там кубкі, арэшкі,
Цукеркі, мядок,
- Маўчок!

На апошнім слове ўсе павінны замаўчаць. Калі хто-небудзь не вытрымае, засмяецца ці вымавіць хоць слова, ён плаціць "штраф". Напрыклад, яму загадаюць праскакаць на адной назе да адзначанага месца, некалькі разоў прысесці, праспяваць, загадаць усім загадку.

**Правілы гульні:** дзеці павінны маўчаць да таго часу, пакуль хто-небудзь не парушыць правілы, але не больш адной мінуты.

## ПОШТА „ЗОРКІ"

**Магдзе Карзуновіч з III „Ц" класа бельскай „тройкі".** Верш Антона Вялевіча, фрагмент якога ты прадставіла як сваю ўласную творчасць, вельмі цікавы і прыгожы. А, можа, прышлеш у „Зорку" свае выказванні і думкі?

*Вершы Віктара Шведа*

## ЧАМУ СМЕРЦЬ ХУДАЯ ?

Матулю пытае
Дапытлівы Косцік:
- Чаму смерць худая,
Адны толькі косці?

- Харчуецца слаба,
Клапоціцца многа,
І хабароў не бярэ
Ад нікога.

## ВУЧУСЯ НА ПАМЫЛКАХ

- Ці ты вучышся, дачуся?
- Вучуся.
- А чаму ж так нарабіла
Многа памылак?
- Я вучуся, - кажа Мілка, -
На памылках.



Авяр'ян Дзеружынскі

## ГЕНІІ

Геніі - гэта
Знакамітыя,
Вялікія
І незвычайныя людзі.

А вось жывуць
У вёсках
Звычайныя
Простыя людзі,
Заўзятыя працаўнікі,
Сціплыя,
Непрыкметныя
Геніі дабрыні.
І такіх геніяў -
Не злічыць.

## ЧАРАЎНІК

Чалавека, які робіць
Незвычайнае,
Называюць
Чараўніком.

Ну які ж ён
Чараўнік?
У яго няма
Ніякіх чараў.

Ён укладае
Ў любімую справу
Ўсю сваю душу.
І гэтым зачароўвае.

************************************************************

## ПРЫГОДЫ БЕЛАВЕЖЫКА:




Адрас рэдакцыі:15-950 Białystok ul.Suraska 1,„Зорка".

Спецыяльна для „Зоркі" прыдумаў і намаляваў студэнт III курса Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута ў Мінску Гардзей Шчаглоў.




**PIĄTEK, 12.07.1991 r.**
PROGRAM I

8.00 "Dzień dobry" - poranny magazyn rozmaitości
9.00 Wiadomości poranne
9.10 Teleferie - muzyczna krzyżówka
9.40 "He Man" - serial anim. prod. USA
10.00 "Szkoła dla rodziców"
10.25 "Janosik" /2/ "Zbójnickie prawo" - serial TP
11.10 Aktualności Telegazety
17.00 Studio Lato
17.15 Teleexpress
17.30 Studio Lato
18.00 "ALF" /24-ost./ - serial USA
18.25 Studio Lato
19.00 "Ekspres gospodarczy"
19.15 Dobranoc
19.30 Wiadomości
20.05 "Miasteczko Twin Peaks" /11/ - serial USA
21.00 Zespół ZAPIS przedstawia...
21.40 "Haich Life" - program muzyczny
22.25 Wiadomości wieczorne
22.45 "Siódemka" w "Jedynce" - franc. pr. satelitarny
23.30 "Alf" /24-ost./ - wersja oryginalna
23.55 BBC-World Service

PROGRAM II

7.55 Powitanie
8.00 CNN-Headline News
8.10 J. angielski /6/
8.40 "W labiryncie" /7-8/ - serial TP /powt./
9.30 Mag. TV śniadaniowej
10.00 CNN-Headline News
10.15 "Ameryka w moich oczach" /4/.
16.45 Powitanie
17.00 "Opowieść o mieście"
17.30 "Cudowne lata" /12/ - serial prod. USA
18.00 - 21.30 Programy regionalne
21.30 Panorama dnia
21.45 Sport
21.55 "Nie zawsze musi by kawior" /1/ - serial niem.
22.55 "Obrazy, słowa, dźwięki" - program o sztuce
23.55 CNN-Headline News
0.05 Program na sobotę
0.10 Noc z "Anteną 5"

**SOBOTA, 13.07.1991 r.**
PROGRAM I

7.00 "W sobotę rano" - magazyn informacyjno-gospodarczy
7.45 "Tydzień na działce
8.15 "Piłkarska kadra czeka"
8.35 "Ziarno"
9.00 Wiadomości poranne
9.10 Teleferie - "Walt Disney przedstawia"
10.25 "Na zdrowie"
10.45 "Bellona" - wojsk. mag. wydawniczy
11.10 Koncert życzeń
11.40 "y" - magazyn ekologiczny
12.10 "Wędrówki dalekie i bliskie": "Opowieści o strunach" - fil. dok.
12.50 "Siódemka" w "Jedynce" - franc. pr. satelitarny
13.40 Sztuka wielkiej formy - T. Makowski
14.00 Wielki sport - koszykówka zawodowa NBA
15.30 Niemcy' 1990 -"Bez muru" /cz.2/ "Naród wschodnich Niemiec" - film. dok.
16.30 "Opoka" - przed sierpniowym spotkaniem z Papieżem
16.45 "Rock-express"
17.15 Teleexpress
17.30 Klub Dobrej Książki
17.55 "Zwidy Jerzego Beresia" - film dok.
18.25 "Butik"
18.55 "Z kamerą wśród zwierząt
19.15 Dobranoc
19.30 Wiadomości
20.05 "Jak tylko potrafisz" - film prod. USA
22.05 Sportowa sobota
22.30 Wiadomości wieczorne
22.50 Śpiewa Ewa Demarczyk
23.45 Jutro w programie
23.50 "Szalony Max" - film fab. prod. austral.

PROGRAM II

7.25 "Kaliber 91"
7.55 Powitanie
8.00 CNN-Headline News
8.10 "Kapitan Planeta i Planetarianie" /18/- serial anim. USA
8.35 Mag. TV śniadaniowej
9.15 "Mądrej głowie" - program W. Manna i K. Materny
9.40 Mag. TV śniadaniowej
10.00 CNN-Headline News
10.15 Mag. TV śniadaniowej
10.40 "Sekretny dziennik Adriana Molle'a lat 13 i 3/4" /6/ - serial ang.
11.05 "Tacy sami" - wydanie w języku migowym
11.25 "Dookoła świata" - u Polaków w Peru
11.55 "Z wiatrem i pod wiatr" - magazyn żeglarski
12.25 "Polska baba" - magazyn Danuty Rinn
13.25 "Zwierzęta świata": "Mangusty czyli w jedności siła" - serial dok.
13.55 "Festiwal muzyki w Łańcucie 1991" - reportaż
14.25 "Ze wszystkich stron" - magazyn reporterów
14.55 Program dnia
15.00 "Zezem" - Jan Tadeusz Stanisławski
15.20 "Kobiety na mojej drodze" /1/
15.30 "Santa Barbara" - serial USA
17.00 Punkt widzenia - bis
17.30 Wzrockowa lista przebojów M. Niedźwieckiego
18.00 Programy lokalne
18.30 Godzina z ...
19.20 "Kobiety na mojej drodze" /2/
19.30 "Galeria 38 milionów" - dyplomy '91
20.00 Muzyka Kościoła Adwentystów Dnia Siódmego
21.00 "Hale i Pace" - program rozrywkowy
21.30 Panorama dnia
21.45 "Bez znieczulenia"
22.00 "Słowo na niedzielę"
22.05 "Kamienie IBARRY" - film fab. prod. USA
23.50 CNN-Headline News

**NIEDZIELA, 14.07.1991 r.**
PROGRAM I

7.00 "Witamy o siódmej"
7.30 "Kraj za miastem"
7.55 "Po gospodarsku"
8.10 "Od niedzieli do niedzieli"
8.55 "Mio, mój Mio" - film fab. prod. ang-radz.
10.30 "Przygody roślin" - "Król Czasu" - film dok. prod. franc.
11.00 "Notowania, czyli co się opłaca rolnikowi"
11.25 "Śladami Warszyca" - pr. dok.
11.50 TV Koncert Życzeń
12.20 Circom Regionale prezentuje
12.50 Magazyn "Morze"
13.10 Alfabet komediantów
13.50 Turniej Tańca Towarzyskiego
14.20 Film dokumentalny
14.50 "Pieprz i wanilia"
15.30 W Starym Kinie: "Rewia Chaplinowska" - film montażowy prod. amerykańskiej
16.45 Telewizjer
17.10 Teleexpress
17.25 TV Teatr Rozmaitości: "Spójrzcie kto do nas zawitał"
19.00 Wieczorynka
19.30 Wiadomości
20.05 "Miliarderka" /2/ - serial franc.
21.35 Kabaret Olgi Lipińskiej
22.25 Wiadomości wieczorne
22.45 Sportowa niedziela
23.05 "Siedem dni-świat"

PROGRAM II

7.50 Przegląd tygodnia /dla niesłyszących/
8.25 Film dla niesłyszących: "Miliarderka" /2/
9.50 Program dnia
10.00 CNN-Headline News
10.10 "Jutro poniedziałek"
10.30 Program lokalny
11.00 Wybrańcy Melpomeny - Juliusz Osterwa
11.30 "Przecież to znamy" - program muzyczny
11.50 "Zbliżenia, czyli to i owo o filmie"
12.30 Express Dimanche
12.45 "Kobiety na mojej drodze"
13.00 Polska Kronika Filmowa
13.10 Sto pytań do ...
13.50 "Przyłbice i kaptury" - serial TP /3/
14.50 Polacy - Stanisław Lorentz
15.45 Studio Sport - Formuła I
16.05 "Podróże w czasie i przestrzeni": "Wędrówki ludów nad Pacyfikiem" - film dokum.
17.05 Formuła I
17.30 "Bliżej świata"
18.30 "Kobiety na mojej drodze"
18.40 Felietony doraźne Jacka Federowicza /1/
19.00 "Wydarzenie tygodnia"
19.30 Galeria "2" - Europa nieznana
20.00 Przeboje Bogusława Kaczyńskiego
21.00 Muzyczna "Antena 5"
21.30 Panorama dnia
21.45 "Rozmowy bez sekretów"
22.20 "Teresa Raquin" /3-ost./ - serial ang.
23.15 Felietony doraźne Jacka Federowicza /2/
23.35 "Kobiety na mojej drodze"
23.45 CNN-Headline News

**PONIEDZIAŁEK, 15.07.1991 r.**
PROGRAM I

17.00 Studio Lato
17.15 Teleexpress
17.30 Studio Lato
18.00 "Dziedzictwo Guldenbergów" /1/ - serial niem.
18.25 Studio Lato
19.15 Dobranoc
19.30 Wiadomości
20.05 Teatr TV - Spektakl na bis: J. Kitowicz "Opis obyczajów, czyli jak zwyczajnie wszędzie się miesza złe do dobrego"
21.55 Leksykon polskiej muzyki rozrywkowej - "S"
22.35 Wiadomości wieczorne
22.55 "Dziedzictwo Guldenbergów" /1/ - serial niem. /wersja oryginalna/
23.20 BBC - World Service

PROGRAM II

16.45 Powitanie
17.00 "Zwierzęta wokół nas"
17.30 "Cudowne lata" /13/
18.00 Program lokalny
18.30 Przegląd Kronik Filmowych
19.00 "Ojczyzna-polszczyzna"
19.15 Zapraszamy do "Dwójki"
19.30 Z harf przez stulecia - gra Anna Sikorzak-Olek
20.00 "Krajobraz po wojnie torfowej" - reportaż
20.30 "Powroty" - film dok.
21.30 Panorama dnia
21.45 Sport
21.55 "Jarosław Mądry" /1/ - serial radz.
23.10 Studio im. A. Munka - "Errata, czyli sceny pokutne w nowych osiedlach" - film TP
23.40 CNN

**WTOREK, 16.07.1991**
8.00 "Dzień dobry"
9.00 Wiadomości poranne
9.10 Teleferie najmłodszych ze smokiem
9.35 Kino Teleferii
10.00 "To się może przydać"
10.25 "Matyas Sandor" /3/ - serial węg.-franc.
11.25 Aktualności Telegazety
17.00 Studio Lato
17.15 Teleexpress
17.30 Studio Lato
18.00 "Dziedzictwo Guldenbergów" /2/ - serial niem.
18.25 Studio Lato
19.15 Dobranoc
19.30 Wiadomości
20.05 "Przemytnicy" - film fab. prod. pol.
21.30 "Telemuzak" - magazyn muzyki rozrywkowej
22.10 "Welcome to Poland" - magazyn gospodarczy
22.40 Wiadomości wieczorne
23.00 "Dziedzictwo Guldenbergów" /wersja oryginalna/
23.25 BBC - World Service

PROGRAM II

7.55 Powitanie
8.00 CNN
8.10 J. angielski /7/
8.40 "Santa Barbara" - serial USA
9.25 Mag. TV śniadaniowej
10.00 CNN
10.15 "Ameryka w moich oczach"
16.45 Powitanie
17.00 "Moda i muzyka"
17.30 "Cudowne lata" /14/
18.00 Program lokalny
18.30 Modlitwa wieczorna
18.50 Magazyn "102"
19.30 Polacy - W. Kuniczak - film dok.
20.00 Wrocław na antenie "Dwójki"
21.00 Teatr czyli świat - z Anną Polony rozmawia Andrzej Żurowski
21.30 Panorama dnia
21.45 Sport
21.55 "Sherlock Holmes - głos terroru" - film fab. prod. ang.
23.00 Stan krytyczny
23.30 CNN

**ŚRODA, 17.07.1991 r.**
PROGRAM I

8.00 "Dzień dobry"
9.00 Wiadomości poranne
9.10 Teleferie - "Rekordy Neptuna"
9.35 "Safari" - serial czechos.
10.00 "Przyjemne z pożytecznym"
10.25 "Dynastia" - serial USA
11.15 Aktualności Telegazety
17.00 Studio Lato
17.15 Teleexpress
17.30 Studio Lato
18.00 "Dziedzictwo Guldenbergów" /3/
18.25 Studio Lato
19.15 Dobranoc
19.30 Wiadomości
20.05 "Dynastia" /92/
20.55 Kabaret Starszych Panów
22.20 Wiadomości wieczorne
22.40 Zespół publicystyki "Zapis" przedstawia "Inni ludzie"
23.10 "Dziedzictwo Guldenbergów" /3/
23.35 BBC - World Service

PROGRAM II

7.55 Powitanie
8.00 CNN
8.10 J. angielski /8/
8.40 "W labiryncie" - serial TP
9.30 Mag. TV śniadaniowej
10.00 CNN
10.15 "Ameryka w moich oczach"
16.45 Powitanie
17.00 "Ekostres"
17.30 "Cudowne lata" /15/
18.00 Program lokalny
18.30 Rebusy - teleturniej Wojciecha Pijanowskiego
19.00 "M.A.S.H." - serial USA
19.30 Wielkie interpretacje - Władysław Kosiewicz gra IV partitę D-dur Jana Sebastiana Bacha
20.00 Laco Adamika fascynacje telewizją
20.45 "Ostatnia karta"
21.30 Panorama dnia
21.45 Sport
21.55 "Dziewczyna z Mazur" /3/ - serial TP
22.50 "Telewizja nocą"
23.35 CNN

**CZWARTEK, 18.07.1991 r.**
PROGRAM I

8.00 "Dzień dobry"
9.00 Wiadomości poranne
9.10 "Janka" /7 i 8/ - serial polsko-niemiecki
10.10 "Sto lat" - magazyn ubezpieczeń społecznych
10.20 "Giełda pracy - giełda szans"
10.40 "Van der Valk" /2/ - serial ang.
12.25 Aktualności Telegazety
17.00 Studio Lato
17.15 Teleexpress
17.30 Studio Lato
18.00 "Dziedzictwo Guldenbergów" /4/
18.25 Studio Lato
18.50 Magazyn Katolicki
19.15 Dobranoc
19.30 Wiadomości
20.05 "Van der Valk" /2/
21.50 Gość Andrzeja Zarębskiego
22.05 "Pegaz"
22.35 Wiadomości wieczorne
22.55 Film muzyczno-baletowy
23.20 "Dziedzictwo Guldenbergów" /4/
23.45 BBC - World Service

PROGRAM II

7.55 Powitanie
8.00 CNN
8.10 J. angielski /9/
8.40 "Santa Barbara" - serial USA
9.25 Mag. TV śniadaniowej
10.00 CNN
10.15 "Ameryka w moich oczach"
16.45 Powitanie
17.00 "Giełda" - magazyn kupców i przemysłowców
17.30 "Cudowne lata" /16/
18.00 Program lokalny
18.30 Magazyn "102" - Marta Klubowicz
19.00 "Pod wspólnym dachem" /3/ - serial franc.
19.30 "W teatrze jednego aktora" - film dok. o A. Stopce
20.00 Studio sport
21.00 Ekspres reporterów
21.30 Panorama dnia
21.45 Sport
21.55 "Naga dżungla" - film fab. USA

**СЛУХАЙЦЕ БЕЛАСТОЦКАЕ РАДЫЁ**

**На ультракароткіх хвалях (УКФ -72,8 Мгц у Беластоку і 72,68 Мгц у Сувалках) - штодзень ад гадз.5.30.**

**Перадачы на беларускай мове:**
**-„Пад знакам Пагоні"-штодзень у 8.50 і 18.45.**
**-„Духоўныя сустрэчы"- у суботу ў 8.50.**
**-„Перад выхадам у царкву"-у нядзелю ў 7.30**
**-„Беларускі радыёчасопіс"- у нядзелю ў 8.30.**
**-„Для школы і для дому"-у сераду ў 8.50. і 18.45.**
**„Беларускі канцэрт пажаданняў"ы (платны) -у суботу ў 18.45.**

**Алесь Чобат**

## НА ВУЛІЦЫ ПРАЗ ГОД

Крывая і гарбатая мая,
пятнаццаці рэспублікаў сям'я,
ты, вулка мілая! О, вечны край зямлі!...

- Ну, як вы тут здаровыя былі?
Як справы у часы перабудовы?
- А дзякуй Богу! Як і год назад,
у цёткі Мані два бычкі й карова,
пусцілі, як ударніка, Пятрова,
а той напіўся і абхаяў лад,
суседзяў, жонку і...такую волю!
Прыехаў Сідараў і заздаваў на долю,
бо ў Рабіновіча забралі апарат,
такая непрыемная падзея -
паверыў прапагандзе нейкі гад
і накляпаў на беднага яўрэя!
А перад тым нядрэнна справы йшлі...

А выбары былі? - Ўвесь год былі!
Начальства тут не здолела пагрэцца,
наш перамог, такі Валера Дзік:
прыйшоў, наабяцаў і рантам знік -
ды хлопец малады, ён разбярэцца.

А ўвогуле, заўсёды можна жыць,
такога нам ніхто не забароніць:
адзін не гоніць - і спакойна спіць,
другі не спіць - але спакойна гоніць;
Пятроў купіў дэсантны аўтамат,
да Рабіновіча бітоны возіць брат,
а цёткі Мані меншая дачка
пайшла за міліцэйскага Валодзю Пацукова,
дык, пэўна, што прыйшла перабудова
да нашага заспанага кутка.
Што хочаш гавары - і ўсім плявацы!
Стары Іван як стаў мітынгаваць,
дык Маня ногі збіла за бычкамі,
халеру вам! - крычыць, - рабіце самі...

- Дык, кажаш, час цячэ? - А ўсё цячэ!
Хай Бог дарue й цешча не ўрачэ,
вунь мясакамбінат пусціў смурод,
у Івановых знікла ноччу брама,
то раскапаюць брук, то на рамонце крама
на роднай вуліцы які ўжо, зрэшты, год.






*Мал. Адама Сяменчыка*

### АНЕКДОТЫ АД ЧЫТАЧОЎ
**З татарскага гумару**

Жонка пытаецца ў мужа:
- Усе гавораць: "нейтронная бомба, нейтронная бомба", а што такое нейтронная бомба?
- Ну..., калі яе кінуць, то нас не будзе, а ўсё навокал застанецца.
- А якую зараз бомбу скінулі? Мы ёсць, а вакол нічога няма?

***

Бяжыць па лесе заяц і хіхікае. Сустракае яго воўк.
- Заяц, ты чаго смяешся?
- Вось, - паказвае заяц пальчатку, - карова ліфчык згубіла!

***

Грузін цягне барана ў самалёт. Пілот пытаецца ў яго:
- Навошта барана цягнеш?
- Якога барана? Баран у мяне ва універсітэце вучыцца, а гэта - сувенір.

„Чаян", г. Казань

*Пераклаў В. Бабей*



### МІМАХОДЗЬ

Праўда не коле вочы таму, хто своечасова паварочваецца да яе спіною.

*

На кончыку пяра можа змясціцца цэлая бочка дзёгцю.

*

З'еў зубы ў сваёй справе, а разам з імі... і многіх саслужыўцаў.

*

Перамываў косці суседзям выключна з пункту гледжання гігіены.

*

Самымі бясколернымі аказваюцца прыгожыя фразы.

**П. Капчык /"Вожык"/**

### ВІРАВАНКА
**/чатырохлітарная/**

Першую літару слова ўпісаць у клетачку з лікам, астатнія - вакол чорнага квадраціка згодна з рухам гадзіннікавых стрэлак.

1/ адзінка даўжыні, 2/ маслюк, 3/ камень ля каменя, 4/ павелічальнае шкло, 5/ у ката ёсць, у каня няма, 6/ хрысціла, 7/ адна з другой не сыдзецца, 8/ чорны напітак, 9/ нізкі жаночы голас, 10/ звер з лапатай на галаве, 11/ пасудзіна з вузкім горлам і выпуклымі бакамі, 12/ часам выбівае збожжа, 13/ заўсёды мокрая, 14/ у сям'і, 15/ слепа трымаецца моды, 16/ не адна пасля дажджу, 17/ птушка з веерападобным чубам на галаве, 18/ асаблівасць адзення, з якой можна выйсці, 19/ кроплі на раслінах, 20/ цячэ на захадзе Польшчы, 21/ 35 градусаў Цэльсія летам, 22/ азначэнне дня, 23/ створана фантазіяй або даўленнем, 24/ арала, 25/ цячэ ў берагах.

**"ядань"**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**АДКАЗ НА КРЫЖАВАНКУ, ЗМЕШЧАНУЮ Ў Н-РЫ 22.**

УПОПЕРАК: макраклімат, оптык, эгіда, армія, араб, пава, рубашка, арфа, сера, маланка, зіма, грош, казка, Натан, саксы, астракомпас.

УНІЗ: астра, рука, корм, ідэя, аліва, мотагадзіна, барабаншчык, рыбалка, імшанік, брама, пасаг, метыс, рыкша, кныр, знак, Асам.

## ЗНАЙ НАШЫХ!

Сустрэча адбылася ў паўразваленай хаце ў адным з аазісаў дзікай Саўдэпіі. Мясцовыя, адзетыя ў звярыныя шкуры і башмакі з нявырабленай шкуры здохлай кабылы, абступілі цесным кругам свайго земляка, акуратна апранутага, які толькі што вярнуўся са службовай камандзіроўкі ў Еўропу.

- Ну і што? Як там жывуць? - пацікавіліся.

- Так, так, - прыезджы кіўнуў галавой. - Дзеецца там шмат цікавага. Гэта толькі вы сталі дзікунамі, далёка вам да Еўропы. Вось там дык вынаходствы ды розныя адкрыцці! Чулі вы, напрыклад, што робіць Штэйнах?

- Ды не, адкуль жа мелі пачуць, нічагусенькі, - згодна зашапталіся саўдэпаўцы.

- Вось так яно і ёсць. Плесняю вы тут пакрыліся.

Адзін такі немец па прозвішчу Штэйнах адкрыў, як можна амаладзіць старога чалавека. Ты ў якім узросце? Пяцьдзесят годзікаў стукнула? Дык зараз табе ўсяго 25! Вам пад восемдзесят? Ён тут жа чык-чык скальпелем і - калі ласка, атрымоўвайце - вам 18 гадоў!

- Як жа ён гэта робіць, нямецкая морда?

- Вельмі проста: залозы старэйшынам вырэзвае.

- Якія залозы? Што гэта такое?

- А чорт яго ведае. Яму гэта відней.

- А як ён дайшоў да гэтага вынаходства?

- Ну як, як і ўсе вучоныя. Аднаму выразаў залозу - а як толькі закрыў вочы, адразу і памёр. "Давайце другога, - крыкнуў Штэйнах, - не туды нажом заехаў". Прынеслі яму другога. Разануў па другой залозе - а стары як не пачне гікаць. Што ж, зноў не туды. "Трэцяга давайце!" Так, мабыць, на дзевятым закончылася - ён усё ж дабраўся да адпаведнай залозы. Дзядуля скочыў з аперацыйнага стала, абхапіў за талію медсястру і давай танцаваць польку ды казачка. "Мне, - кажа, - цяпер дваццаць гадоў і хочацца пашалець!" Усё ж пасля нейкага часу яго ўціхамірылі і, - падумаеце, - у сярэднюю школу запісалі.

- Вось здорава! - дружна зарагаталі саўдэпаўцы.

- Нашыя вучоныя нічым не горшыя, - пачуўся голас сівабародага. Пра Паўзунова чулі? Гэта сапраўдны геній! Ён быў настаўнікам геаграфіі ў адной такой прызабытай вёсцы.

- Паслухайце толькі, - сказаў аднойчы педагог, - есці нам ужо амаль нічога няма, а есці ж усім неабходна. Як усім вядома, шышак хваёвых у лесе колькі хочаш. Афрыканскія малпы іх ядуць. Але калі вы іх адразу пачнеце жраць, дык неўзабаве ўсе перадохнеце... Гэта значыць не малп есці, а тыя шышкі. Але паступова свой арганізм можна прыстасаваць да такой яды.

- Рабіце так, - раіў ён, - вам кожны дзень выдаюць 500 грамаў хлеба, а вы з'ешце 490 грамаў і адну змолатую сасновую шышку; на другі дзень - 480 грамаў хлеба і дзве хваёвыя шышкі, потым ужо 470 грамаў і тры шышкі. Праз 50 дзён хлеб зусім не будзе патрэбны - яго поўнасцю заменяць шышкі. Таксама і наконт вопраткі. Адзення ў вас як на лякарства. а неўзабаве нічагусенька не будзеце мець. Без яе памерзнеце як якія-небудзь дурні. І таму неабходна паступова загадоўваць валасы. - Я, - гаварыў Паўзуноў, - чытаў у "Змене" аб тым, што калі лысы чалавек будзе прабываць у халодным памяшканні без шапкі, тады ў яго на галаве пачнуць расці валасы!

Як паступаць, каб пакрыцца валоссем? Вельмі проста: адрэжце адзін рукаў на руцэ, выстаўце голую руку на холад - яна праз месяц абрасце і ёй будзе цёпла. Усё рабіце паступова: адрэжце другі рукаў, а праз месяц левую калошыну ў нагавіцах, а затым правую, на плячах выражце кусок тканіны - і праз паўгода вас не пазнае нават родная маці: "Якая гэта гарыла па лесе ходзіць і хваёвыя шышкі жуе?"

- Ну і што, чыё адкрыццё важнейшае? - спытаў туземец. Куды таму немцу да паўзуновых козыраў. Вось хаця б іхняя кішка насупраць нашай - вельмі ж тонкая!!!

**/Апрацоўка Я.Ц./**




„Niwa", ul.Suraska 1, 15-950 Białystok skr. pocz. 149, tel. 232-41, 210-33.

Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne, 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

**Białoruski Tygodnik Społeczno-Kulturalny sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

*Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства.*
*Рэдагуе калектыў: Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга (адказны сакратар).*

I.Prenumerata pocztowa
1.Termin wpłat na prenumeratę pocztową na IV kwartał 1991 r. upływa 20 sierpnia 1991 r.
2.Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 13.000 zł + 6.500 zł za doręczenie.
3.Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.
Nr. konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.
II.Prenumerata własna - prowadzona przez wydawcę.Cena 1 egz.z wysyłką wynosi 2.000 zł.
Cena prenumeraty miesięcznej:
- lipiec - 8.000 zł.
- sierpień - 8.000 zł
Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 26.000 zł. Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.